6 сакавіка 2015 | № 9 (426)

Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Камунізм пад трыбунал

стар. 5

**6** УСІМ УКРАІНЦАМ ТРЭБА СТАЦЬ ТРОХІ ГРУЗІНАМІ

З камандзірам «Грузінскага нацыянальнага легіёну», які ваюе на Данбасе, размаўляе журналіст Зміцер Галко



**4** ЦІ ВЫРАТУЮЦЬ СЯБРЫ БЕЛАРУСКУЮ МАДЭЛЬ?

У Беларусі ёсць гаспадарка, але няма эканомікі, таму што размеркавальныя адносіны пануюць над рынкавымі

**13** ЗАМАХІ, ГРАМАДСТВА, ДЗЯРЖАВА

Мінулае стагоддзе і першыя гады XXI бачылі шмат забойстваў лідараў палітычнай апазіцыі. Як грамадства і дзяржава звычайна рэагуюць на такія злачынствы?

**14** ЮРЫЙ ШАЎЧУК: «ЗРАБІЦЬ КРОК ДА ЛЮБОВІ СКЛАДАНЕЙ, ЧЫМ ПЕРАМАГЧЫ Ў ВАЙНЕ»

З лідарам «ДДТ» размаўляе Сяргей Шапран



# Што яшчэ святкуем 8 сакавіка?

## Ёсць шмат людзей, якія савецкія святы лічаць недарэчнымі і штучнымі



Сяргей ПУЛЬША

Напрыклад, 8 сакавіка. Маўляў, якое дачыненне сучасныя жанчыны маюць да Розы Люксембург, Клары Цэткін і першага «маршу пустых рондаляў» ткачых у Нью-Ёрку ў 1857 годзе?

Рэзка супраць святкавання 8 сакавіка выступаюць некаторыя прадстаўнікі праваслаўнай царквы. Знакаміты дыякан-публіцыст Андрэй Кураеў дапісаўся да таго, што, абвясціўшы 8 сакавіка святам, рэвалюцыйныя іудзеі прымусілі палову свету адзначаць Пурым. І яго не хвалюе, што Пурым прывязаны да месячнага календару і кожны год зрушваецца туды-сюды.

Праціўнікі святкавання Міжнароднага жаночага дня сцвярджаюць: ёсць у свеце шмат іншых, больш спрыяльных «жаночых дзён». У праваслаўных — тыдзень жонак-міраносіц, які святкуецца праз два тыдні пасля Вялікадня. Найстарэйшае жаночае свята — Мацярынская нядзеля — адзначаецца ў Вялікабрытаніі і Ірландыі з пачатку XVII стагоддзя ў чацвёртую нядзелю Вялікага посту. Але гэта ўсё — ад пачатку царкоўныя святы. Для астатніх ёсць амерыканскі Дзень маці — адно з самых капіяваных святаў па ўсім свеце. Услед за ЗША другую нядзелю мая абвясцілі святам 23 краіны, а яшчэ больш за 30 адзначаюць яго ў іншыя дні. У Беларусі Дзень маці — 14 кастрычніка.

Але, калі пакапацца ў гістарыяграфіі «Дня маці», то ён ідэйна амаль нічым не адрозніваецца ад 8 сакавіка. У ЗША Дзень маці ўпершыню публічна быў абвешчаны вядомай амерыканскай пацыфісткай Джуліяй Уорд Хоўв у 1872 годзе. «Дзень маці», па меркаванні Джуліі Уорд, — дзень адзінства матуль у барацьбе за мір ва ўсім свеце. Ну і чым гэта лепей за Міжнародны дзень барацьбы за правы жанчын і міжнародны мір (8 сакавіка па класіфікацыі ААН)?

Кепска не тое, што 8 сакавіка сапсавалі камуністы. Кепска тое, што гэты «дзень жанчын» ператварыўся ў адзін дзень у годзе. Хай бы кожны дзень быў іхнім днём. На вялікі жаль, седзячы ў офісах і на заводах, за працай і штодзённай руцінай мы, мужыкі, забываемся на самае прыгожае, што ёсць навокал нас. Бо жанчыны — нейкія чароўныя істоты, нібыта з іншай планеты. Паглядзіце хаця б, як яны ходзяць: ніводны мужчына так не здолее. Нібыта не ходзяць, а плывуць...

Калі б я быў выдаўцом, я б адмыслова выпусціў штодзённік для мужчынаў, дзе б раз на два тыдні былі нагадванні: «Калі ты ў апошні раз дарыў любай кветкі?», альбо «Калі ты апошні раз гатаваў вячэру?», альбо «Схадзі са сваёй жанчынай у тэатр альбо кіно!». Колькасць разводаў у тых, хто б набыў гэтыя дзённікі, знізілася б удвая.

Гэтую бізнэс-ідэю я дарую таму, хто здолее яе ажыццявіць. А пакуль пытанне ранейшае: што рабіць тым, хто не жадае адзначаць Міжнародны жаночы дзень? Адказ адзін: усё роўна адзначайце!

Напрыклад, 8 сакавіка — знакавая дата для ўсіх аматараў музыкі. Менавіта ў гэты дзень у 1929 годзе ў Ленінградзе ў Малым оперным тэатры ўпершыню выступіў аркестр «тэатралізаванага джазу» Леаніда




**Усё роўна адзначайце свята!**

Уцёсава. У гэты ж дзень, але ў 1962-м, адбылося сапраўднае нараджэнне групы «The Beatles» — іх дэбют на радыё ВВС з Пітам Бестам за барабанамі. Яны выканалі песню Роя Орбісана «Dream Baby». З гэтага моманту іх вядомасць пайшла на ўзлёт.

8 сакавіка 1993 года на MTV упершыню выйшаў мультфільм, які стаў легендай ва ўсім свеце — распачаўся першы сезон «Бівіса і Батхеда», які стаў прабацькам жанру «мультфільмы для дарослых».

А яшчэ 8 сакавіка можна лічыць «Сусветным днём бландзінкі». Бо гэтая дата прыпадае якраз паміж «Днём розуму» і «Міжнародным днём хатніх казурак» — абодва святы па класіфікацыі вядомага сатырыка і паэта Ігара Губармана. Бо ў кожнага свае прусакі ў галаве, а «з прусакамі ў галаве», па анекдотах, у нас блонды.

8 сакавіка можна лічыць днём вызвалення мужчынаў ад жанчынаў. У 1887 годзе менавіта ў гэтую дату жыхар амерыканскага горада Брысталь Эверэт Хортан запатэнтаваў тэлескапічную вуду. Легенда кажа, што Брысталь быў вельмі рэлігійным і аскетычным горадам, і ўсе забаўкі, да якіх адносілі і вуджэнне, лічыліся заганнымі. Тады машыніст Хортан, каб без перашкодаў займацца любімай справай, зрабіў вуду з металічных трубак, якая звонку выглядала як простая палка.

І ўсё ж «жаночых знакаў» у гэты дзень даволі шмат. У 1910 годзе ў Францыі 8 сакавіка Эліза Дэрош атрымала пасведчанне пілота самалёта — першая ў свеце жанчына-пілот. У 1914-м — выйшаў у свет першы нумар часопіса «Работніца». А 8 сакавіка 1987 года ўпершыню ў канцэртнай зале «Арляня» прайшоў паказ калекцыі Валянціна Юдашкіна.

Так што, пакапаўшыся ў календары, можна знайсці шмат цікавых падзей і святаў на гэты дзень, сапраўды не толькі жаночы. Але ўсё ж — паклапацiцеся пра кветкі для сваіх любых!

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### МАГІЛЁЎ. На пасяджэнні аблсавету пускаюць не ўсіх

**Магілёўскі журналіст Уладзімір Лапцэвіч атрымаў адказ з Магілёўскага абласнога Савету дэпутатаў на свой запыт.**

Журналіст БелаПАНу ў сваім звароце прасіў указаць канкрэтны пункт канкрэтнага нарматыўнага альбо заканадаўчага акта, згодна з якім журналіст СМІ абавязаны падаць заяўку на прысутнасць на адкрытых пасяджэннях сесій Магілёўскага аблсавету.

Старшыня аблсавету ў адказе піша, што аблсавет арганізуе сваю работу на падставе рэгламенту работы аблсавету. А п. 23 гэтага рэгламенту кажа пра тое, што колькасны і персанальны склад запрошаных вызначаецца старшынёй Савета.

Старшыня аблсавету лічыць, што рэгламент работы аблсавету дазваляе яму вызначаць, якія СМІ могуць патрапіць на пасяджэнні прадстаўнічага органу, а якія — не. Атрымліваецца, што рэгламент работы органа пастаўлены чыноўніцтвам вышэй за законы Рэспублікі Беларусь «Аб сродках масавай інфармацыі» і «Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні», якія не дапускаюць незаконнага абмежавання свабоды інфармацыі і ўстанаўліваюць галоснасць асноўным прынцыпам мясцовага кіравання.

Уладзімір Лапцэвіч цэлы год спрабуе патрапіць на пасяджэнні Магілёўскага абласнога Савета дэпутатаў, аднак яму ўвесь час адмаўляюць у гэтым, спасылаючыся на рэгламент работы аблсавета, які нібыта дазваляе прысутнічаць на гэтых пасяджэннях толькі па спецыяльным запрашэнні.

21 студзеня 2015 года суд Ленінскага раёна г. Магілёва прызнаў дзеянні па нядопуску журналіста на сесіі Магілёўскага аблсавету законнымі.

**Магілёўская вясна**

### ГРОДНА. Права на стасункі з МЗС

**Гродзенскі сябра ГА «БАЖ» Віктар Парфёненка падаў прыватную скаргу на імя старшыні Мінгарсуда.**

Журналіст мае цвёрды намер прайсці ўсе магчымыя судовыя інстанцыі, каб даказаць, што беларускае МЗС беспадстаўна адмаўляе яму ў акрэдытацыі.

Віктар Парфёненка ўжо сем разоў атрымліваў ад Міністэрства замежных спраў адмовы ў акрэдытацыі ў якасці журналіста «Беларускага Радыё Рацыя».

З мінулага года ён вырашыў працягнуць змаганне ў судах і падаў скаргу на дзеянні МЗС у суд Ленінскага раёна Мінска. Ленінскі суд не пажадаў заводзіць грамадзянскую справу па заяве Парфёненкі, судовая калегія Мінгарсуда стала на бок суда першай інстанцыі, і цяпер журналіст падаў скаргу ў парадку нагляду на імя старшыні Мінгарсуда.

— У сваёй скарзе я прашу адмяніць вызначэнні Ленінскага раённага суда і судовай калегіі і зноў перадаць справу суду першай інстанцыі — каб мець нейкія прававыя стасункі з МЗС. Бо на сённяшні дзень я атрымліваю толькі адмовы ў акрэдытацыі і хачу вызначыць, у чым іх прычына, — зазначыў В. Парфёненка ў гутарцы са Службай маніторынгу ГА «БАЖ».

Станоўчым прэцэдэнтам ён лічыць справу Марыны Коктыш, якая змагалася за акрэдытацыю ў якасці карэспандэнта пры беларускіх органах улады і атрымала падтрымку Камітэта па правах чалавека ААН.

**Служба маніторынгу БАЖ**

### БРЭСТ. Акцыя салідарнасці з Мікалаем Дзядком

**Мясцовыя анархісты правялі акцыю салідарнасці з палітвязнем. Яны змясцілі вялікія плакаты з партрэтам Мікалая Дзядка на розных гарадскіх пляцоўках.**

Такім чынам рабілася спроба прыцягнуць увагу грамадскасці да лёсу вязня, асуджанага 26 лютага ў Магілёўскай турме да дадатковага года зняволення.

Акрамя плакатаў брэсцкія прыхільнікі анархізму раскідалі некалькі дзясяткаў улётак і ўсталявалі банер з лозунгам «Свабоду палітвязням і анархістам» насупраць аднаго са шматлюдных прыпынкаў у цэнтры горада. Як паведамілі арганізатары акцыі, іх мэтаю было выказаць салідарнасць з усімі таварышамі, якія знаходзяцца ў турмах і зведваюць рэпрэсіі з боку беларускіх уладаў.

Нагадаем, Мікалай Дзядок павінен быў выйсці на волю 3 сакавіка ў сувязі са сканчэннем тэрміну адбыцця пакарання, але 26 лютага ён быў асуджаны да яшчэ аднаго года зняволення.

**spring96.org**

# Індэкс «ЧаркаСкваркі»

**Эксперты Беларускага інстытута рэформы і трансфармацыі публічнага адміністравання (BIPART) прадставілі вынікі свайго чарговага даследавання. Яны вывелі ўнікальны індэкс «ЧаркаСкваркі» (ЧС).**

Як расказаў кіраўнік адмысловага праекту «Кошт ураду» Уладзімір Кавалкін, індэкс «ЧаркаСкваркі» — гэта кошт 100 грамаў гарэлкі і 100 грамаў свініны. З яго дапамогай можна даведацца, ці справядлівая цяперашняя вартасць беларускага рубля, наколькі яна завышаная ці заніжаная. Таксама можна паглядзець, ці абясцэнілася грашовая адзінка Беларусі, параўнаць заробкі ў Беларусі і ў геаграфічных суседзяў і вызначыць рэальную падатковую нагрузку. Такім чынам, пераконвае эканаміст, «ЧаркаСкварка» — самая цвёрдая і зразумелая валюта, у адрозненне ад рубля, які пастаянна абясцэньваецца.

За пункт адліку ўзяты падзеі на валютным рынку Беларусі ў снежні-студзені. Паколькі асноўны рынак збыту для беларускай прадукцыі — гэта Расія, дыспарытэт коштаў паставіў пад пагрозу экспарт і валютную выручку. Як прыклад: летась у снежні беларуская «ЧаркаСкварка» каштавала 22 603 рублі супраць расійскай за 17 844 рублі. У выніку дэвальвацыі беларускага рубля і далейшага абясцэньвання расійскага ў студзені знайшлі новае раўнаважнае значэнне: кошт «ЧаркаСкваркі» ў Беларусі склаў 22 451 рубель, у Расіі — 20 502 рублі.

Самымі заможнымі пад канец мінулага года сярод суседзяў Беларусі былі палякі, якія за адзін сярэдні заробак маглі сабе дазволіць 626 «ЧаркаСкварак». На другім месцы — Латвія (487), Літва (472), Расія (464). Беларусы з паказнікам у 301 "ЧаркаСкварку" занялі перадапошнюю пазіцыю, апярэдзіўшы толькі Украіну.

У даследаванні яшчэ шмат цікавых рэчаў (з ім можна пазнаёміцца на сайце sympa-by.eu). Але галоўнае, што з яго вынікае, — нас чакаюць няпростыя часы.

**«Новы час»**

# Дзень волі будзе з музыкай

**25 сакавіка падчас акцыі на Дзень Волі ўдзельнікаў шэсця могуць суправадзіць дудары, а на мітынгу на плошчы Бангалор выступяць іншыя музыкі. Такія прапановы абмяркоўваліся на другім пасяджэнні аргкамітэту па яе правядзенні.**

Сябры аргкамітэту па адзначэнні Дня Волі абмяркавалі новыя захады для прыцягнення большай колькасці ўдзельнікаў на акцыю. У прыватнасці, лічаць яны, акцыя павінна стаць больш святочнай, з разнастайнымі складнікамі. Так, шэраг музыкаў ужо выказалі згоду выступіць на плошчы Бангалор напрыканцы акцыі. Працягваюцца перамовы з дударамі, якія змогуць граць падчас шэсця.

«Адметнасць акцыі гэтага года ў тым, што да працы далучыліся шэраг прадстаўнікоў моладзевых арганізацыяў, якія звычайна досыць крытычна ацэньваюць традыцыйны фармат вулічных мерапрыемстваў», — адзначыў сябра аргкамітэту, першы намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Юрась Губарэвіч.

Ён распавёў, што з боку моладзі было шмат новых прапановаў, і ў выпадку, калі іх атрымаецца рэалізаваць, то акцыя абяцае быць больш цікавай і прыцягальнай, чым у мінулыя гады. «Шмат што залежыць ад актыўнасці самых маладых людзей, але ў Беларусі любым ініцыятывам, нават калі яны знаходзяцца ў межах заканадаўства, можа перашкодзіць улада, якая не зацікаўленая, каб колькасць удзельнікаў святкавання Дня Волі павялічвалася», — сказаў Юрась Губарэвіч.

Першы намеснік старшыні Руху «За Свабоду» чакае, што ў гэтым годзе ў Дзень Волі палітычную частку разбавяць святочнай, паступяць новыя ідэі з афармленнем і напаўненнем акцыі лозунгамі і атрыбутыкай.

Пры гэтым Губарэвіч падкрэсліў, што хаця фармат — важны чыннік, але, «натуральна, асноўная прыцягальнасць акцыі — яе змест». «Найперш, гэта свята для беларусаў, дзень незалежнасці. Людзі, які прыходзяць на акцыю, дэкларуюць важнасць гэтага свята», — лічыць ён, адзначыўшы, што другі год Дзень Волі прыпадае на момант вострых палітычных варункаў, калі незалежнасць Беларусі находзіцца пад пагрозай.

«Важна выказаць стаўленне да падзеяў ва Украіне. Але, перад усім, гэта акцыя наша, важней за ўсё беларуская незалежнасць, трэба паказаць, што мы гатовыя яе бараніць», — падсумаваў Губарэвіч.

Наступнае пасяджэнне аргкамітэту па адзначэнні Дня Волі запланаванае на 9 сакавіка.

**рух.by**

# Па прыватызацыі ніяк не дамовіцца

Арцём ЛЯВА

**Круглы стол на тэму выпрацоўкі адзіных эфектыўных падыходаў да прыватызацыі беларускіх прадпрыемстваў прайшоў у офісе Руху «За Свабоду».**

У мерапрыемстве ўдзельнічалі эксперты шэрагу палітычных партый і арганізацый. Сярод іх былі намеснік старшыні АГП Леў Марголін, старшыня партыі «Справядлівы свет» Сяргей Калякін, намеснік старшыні партыі «Зялёныя» Дзмітрый Кучук, намеснік старшыні аргкамітэта «Партыі свабоды і прагрэсу» Сяргей Казлоўскі, старшыня партыі «Надзея» Алена Яськова, прадстаўніца БСДП(Г) Жана Семянтовіч ды іншыя.

Галоўным экспертам, які рабіў даклад пра бачанне прыватызацыі і шляхі па падвышэнні яе эфектыўнасці, выступіў эканаміст Сяргей Чалы.

Сяргей Чалы адзначыў, што сёння мы хутчэй назіраем працэс рэпрыватызацыі, калі дзяржава вяртае сабе прыватызаваныя раней прадпрыемствы. На думку Чалага, цяперашні крызіс падштурхоўвае да прыватызацыі буйных прадпрыемстваў, з дапамогай якой якіх можа быць забяспечаны эканамічны рост. Пераважная большасць беларускіх заводаў працуе неэфектыўна. Заробкі на стратных прадпрыемствах больш нагадваюць дапамогу па беспрацоўі, якое такім чынам мае прыхаваны характар.

«У праграме «Паглыблены дыялог», у межах якой ладзіцца мерапрыемства, удзельнічаюць 11 арганізацый, у асноўным палітычных парый», — адзначыла каардынатарка дыскусійнай пляцоўкі па прыватызацыі, створанай для выпрацоўкі агульных падыходаў у асяродку апазіцыйных палітычных партый і арганізацый, намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Галіна Скараход.

«Круглы стол праводзіўся, каб выпрацаваць агульнае бачанне на працэсы прыватызацыі ў Беларусі. Тая прыватызацыя, што адбылася (чэкавая), не прынесла ніякіх здабыткаў ні прадпрыемствам, ні краіне. Беларускія партыі не бачаць сэнсу ў працягу чэкавай прыватызацыі па ранейшай схеме», — падкрэсліла Галіна Скараход.

Па словах Галіны Скараход, на сустрэчы палітыкі ўзгаднілі агульныя прынцыпы прыватызацыі. Сярод іх рэгуляванне працэсу прыватызацыі законам; празрыстасць; аб'ектыўнасць ацэнкі актываў, якая забяспечваецца мінімум трыма незалежнымі ацэншчыкамі; адкрытасць і конкурсны падыход.

У той жа час, паводле каардынатаркі сустрэчы, ёсць шэраг пазіцый, па якіх не атрымаецца дамовіцца з ідэалагічных прычынаў.

Агульныя падыходы да прыватызацыі пасля іх канчатковай выпрацоўкі могуць быць скарыстаныя дэмакратычнымі сіламі пасля змены ўлады, альбо нават дзейснай уладай, калі яна будзе гатова ўспрымаць канструктыўныя прапановы з боку апазіцыі. Выкарыстанне распрацаваных падыходаў, па задуме арганізатараў пляцоўкі, паспрыяе паляпшэнню сітуацыі ў эканоміцы, яе рэфармаванню, прыцягненню інвестыцый, узмацненню сацыяльных гарантый для насельніцтва.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# У іх ёсць план

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Аляксандр Рыгоравіч злятаў у Маскву і сустрэўся там з Пуціным у межах ужо мала каму памятнай Саюзнай дзяржавы. Вынікам гэтай сустрэчы стала тое, што мы даведаліся: у іх ёсць план. Сумесны план па выхадзе з агульнага крызісу.**




Як паведаміў на прэс-канферэнцыі Пуцін, «пад уплывам неспрыяльнай сусветнай кан'юнктуры — падзення коштаў на нафту, рэзкіх ваганняў валютных курсаў — адбылося некаторае скарачэнне аб'ёмаў узаемнага гандлю, у 2014 годзе яно склала каля пяці працэнтаў. Для пераадолення гэтай сітуацыі і забеспячэння ўстойлівай дынамікі дзелавога ўзаемадзеяння прымаюцца аператыўныя меры. Урадамі прыняты План мерапрыемстваў па стварэнні дадатковых умоў для развіцця гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва. Па сутнасці, гэта сумесны антыкрызісны план, накіраваны на далейшае ўмацаванне расійска-беларускай інтэграцыі. Зразумела, усе палажэнні гэтага дакумента будуць выконвацца з улікам нашых абавязкаў у рамках Еўразійскага эканамічнага саюза».

Што гэта за план, навуцы не вядома. Пуцін агучыў толькі ягоныя асноўныя элементы. Па ягоных словах, з Лукашэнкам ён дамовіўся пра «нарошчванне ўзаемнай інвестыцыйнай актыўнасці», адзначыўшы, што Беларусь — лідар па аб'ёме назапашаных расійскіх капіталаўкладанняў. Казалася пра новыя праекты ў энергетыцы, аўтамабілебудаванні, электроннай прамысловасці, высокатэхналагічнай сферы.

Карацей, Пуцін казаў пра далейшую экспансію расійскага капіталу ў Беларусь, бо ў сінявокай «інвестыцыйнай актыўнасці ў Расіі» амаль няма — грошы не тыя. Між тым, перш чым казаць пра «новыя праекты», трэба было б разабрацца са старымі — холдынгамі МАЗ-Камаз (аўтамабілебудаванне), «Пеленг» (электронная прамысловасць) і гэтак далей. У гэтыя «смачныя кавалкі» беларускай эканомікі Лукашэнка расіянаў не пускае, і наўрад ці дапусціць.

Ёсць вельмі вялікія сумневы, што гэты «план» будзе выконвацца. Варта толькі ўзгадаць, як прэм'еры — Дзмітрый Мядзведзеў і Андрэй Кабякоў, яго падпісвалі. Гэта проста анекдот.

«У адпаведнасці з нашымі даручэннямі эксперты адпрацавалі план мерапрыемстваў па стварэнні дадатковых умоў для развіцця гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва. Пэўны план, канкрэтныя пункты, над выкананнем якіх, я думаю, мы на працягу гэтага паўгоддзя практычна павінны скончыць працу», — па-бачнаму каротка далажыў Кабякоў Мядзведзеву. «Мы з вамі прэм'еры, а не эксперты. Таму давайце мы план паглядзім,

**Пуцін казаў пра далейшую экспансію расійскага капіталу ў Беларусь, бо ў сінявокай «інвестыцыйнай актыўнасці ў Расіі» амаль няма — грошы не тыя. Але спачатку трэба было б разабрацца са старымі праектамі — холдынгамі МАЗ-Камаз, «Пеленг» і г.д.**

можа, там што не тое напісана, а калі ўсё ў парадку — падпішам яго», — прапанаваў Мядзведзеў. «Абсалютна згодны», — адказаў Кабякоў. І — падмахнулі.

Пра тое, што план — не план, сведчыць заява Кабякова пра «на працягу гэтага паўгоддзя практычна павінны скончыць працу». А калі «не практычна»? Карацей, абодва прэм'еры падпісалі яго з упэўненасцю, што выконвацца план не давядзецца. Прынамсі, паўгады. А можа, і ніколі.

Аляксандр Рыгоравіч жа быў заклапочаны іншым. Падчас пасяджэння ён сказаў: «Мы не дапрацоўваем, ствараем напружанасць у гандлёвых адносінах, дысбаланс у эканамічнай палітыцы паміж нашымі краінамі, з-за чаго ўзнікаюць штучныя бар'еры для свабоднага перамяшчэння тавараў. Усе гэтыя бар'еры трэба здымаць. І мы гэта зробім», — казаў ён.

Але як насамрэч здымаюцца гэтыя бар'еры, дэманструюць дзяржаўныя органы. У той час, як кіраўнік Беларусі здымае бар'еры, Дзяржаўны мытны камітэт іх стварае. З 10 сакавіка ў чарговы раз уводзяцца абмежаванні на правоз пэўных тавараў з-за мяжы для асабістага карыстання. Толькі адзін раз у тры гады можна будзе ўвозіць у сінявокую 1 адзінку складанай бытавой тэхнікі і электрапрыбораў. Сюды патрапілі газавыя і электрычныя пліты, пыласосы, кухонныя камбайны, мікрахвалёвыя печы, лядоўні, маразільнікі, пральныя машыны, кававаркі, ноўтбукі і планшэты, пыласосы, і нават дзіцячыя калыскі. Раз на два гады можна будзе ўвезці чатыры аўтамабільныя шыны і дыскі.

Можна было б казаць пра логіку ў дачыненні да газавых пліт, лядоўняў і пральных машын — хай людзі падтрымліваюць айчыннага вытворцу, набываюць «Гефест» альбо «Атлант». А вось наконт ноўтбукаў і планшэтаў — яўны перагіб, бо ў нас яны не ствараюцца. Ва ўмовах дэфіцыту падручнікаў планшэт са скачанымі на яго з сайта Мінадукацыі кніжкамі можа быць выйсцем, але за год яго дзiцёнак «удзелае» так, што толькі на запчасткі ён і прыдатны. Прыкол і з дзіцячымі калыскамі. У 2012-м годзе канцэрн «Беллегпрам» з пенай у роце рапартаваў, што наладжана «імпартазамяшчэнне» гэтай прадукцыі. Як высветлілася, на ўсю Беларусь выпускаецца 250 (!) дзіцячых калясак на год. І пры такой пазіцыі Мытнага камітэта мы разлічваем на павышэнне нараджальнасці? Навошта дзяржаўны мытны камітэт крыўдзіць дзетак? І як наконт «зняцця бар'ераў»?

Самы прыкол у тым, што гэтая пастанова, як заўсёды, уводзіцца «папярэднім чыслом». Адлік «каляндарных трох гадоў» пачынаецца з 31 сакавіка 2014 года. Таму не спяшайцеся да 10 сакавіка паспець за мяжу ў пошуках тавараў — вы ўжо спазніліся.

Ну і, як заўсёды, на заканчэнне, добрая навіна. Каб вярнуць прадпрымальнікаў на рынкі, улады нарэшце падрыхтавалі праект указа, які дазволіць ІП-шнікам гандляваць таварамі, увезенымі з тэрыторыі Мытнага саюза, без якіхсьці пацвярджаючых дакументаў, паведаміла прэс-служба Міністэрства па падатках і зборах РБ. «...ІП — плацельшчыкам адзінага падатку прадастаўлена права ў дачыненні да тавараў (за выключэннем падакцызных тавараў), увезеных з тэрыторыі дзяржаў-членаў Мытнага саюза на тэрыторыю РБ і прызначаных для рознічнага гандлю з выплатай адзінага падатку, ажыццяўляць раздробны гандаль у гандлёвых аб'ектах (за выключэннем магазінаў) і на гандлёвых месцах на рынках без дакументаў, якія пацвярджаюць набыццё (паступленне) гэтых тавараў», — гаворыцца ў паведамленні.

Але за гэта давядзецца заплаціць: за «бездакументную» працу прадугледжваецца выплата адзінага падатку з прымяненнем павышальнага каэфіцыента 2 і выплата ПДВ у фіксаваных сумах у памяншальных памерах», — канстатуе МПЗ. Падпісанне ўказа плануецца «ў самы бліжэйшы час».

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## П'етра Паралін

**Дзяржаўны сакратар Папы Рымскага 12–15 сакавіка па запрашэнні беларускіх уладаў наведае з афіцыйным візітам Мінск.**

«Падчас свайго знаходжання ў Беларусі дзяржсакратар Яго Святасці (...) сустрэнецца з прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь і правядзе шэраг сустрэч на самым высокім узроўні», — паведамляецца на афіцыйным сайце Рыма-Каталіцкай царквы ў Беларусі.

Пасланнік Папы Рымскага таксама пагутарыць з веруючай моладдзю і прыме ўдзел ва ўрачыстай цырымоніі пачатку будаўніцтва новага будынка Апостальскай нунцыятуры ў Мінску — асвяціць першы камень. У РКЦ у Беларусі падкрэслілі, што візіт дзяржсакратара Яго Святасці з'яўляецца важным жэстам Папы Рымскага, якім ён «жадае выказаць сваю глыбокую павагу да беларускага народу і праз свайго бліжэйшага паплечніка сустрэцца з каталікамі Беларусі ў малітве і яднанні сэрцаў».

Але, хутчэй за ўсё, Паралін едзе ў Мінск на разборкі. Беларускія католікі абураныя выказваннямі ўпаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Леаніда Гулякі. 22 снежня ён заявіў, што каталіцкія ксяндзы ў Беларусі «займаюцца палітыкай», «ім не падабаецца наша краіна, нашы законы і нашае кіраўніцтва», РКЦ «не зацікаўлена» ў падрыхтоўцы сваіх кадраў у Беларусі, і раскрытыкаваў Касцёл за няправільную, паводле яго слоў, спробу стварэння тэалагічнай акадэміі.

Ці ёсць гэта дзяржаўнай пазіцыяй на самым высокім узроўні, і паспрабуе высветліць Паралін.



## Алена Купчына

**Намеснік кіраўніка МЗС Беларусі Алена Купчына заявіла, што беларускія ўлады разлічваюць выйсці на парафіраванне пагаднення аб спрашчэнні візавага рэжыму з Еўрасаюзам.**

«Не выключаем, што, сапраўды, нам удасца да рыжскага саміта «Усходняга партнёрства» выйсці на парафіраванне пагаднення аб спрашчэнні візавага рэжыму», — паведаміла яна. І ўдакладніла, што гаворка ідзе пра два пагадненні — аб візавай лібералізацыі і рэадмісіі.

Калі адбудзецца парафіраванне пагаднення аб рэадмісіі, да спрашчэння візавага рэжыму з ЕС, сапраўды, застанецца адзін крок. Але ці пойдзе беларуская ўлада на такія крокі? Бо ў гэтым пытанні больш залежыць ад нас, чым ад Захаду.

## Андрэй Макарэвіч

**Лідар «Машыны часу» запісаў сваю першую песню на беларускай мове.**



Легендарная песня "Снег" запісаная для праекта «Global Reload» музычнага парталу Tuzin.fm і грамадскай кампаніі «Будзьма беларусамі!». Макарэвіч спецыяльна прыязджаў у Мінск, каб скончыць працу над сваёй першай у жыцці беларускамоўнай кампазіцыяй.

«Жах як цікава — падзяліўся спявак уражаннямі ад гэтага эксперымента з парталам Tuzin.fm.— Зусім нячаста такім займаюся, таму што не лічу сябе выканаўцам-паліглотам. Па-беларуску вельмі цікава паспрабаваць, бо гены ўсё ж такі ёсць. Я вельмі добра памятаю моцны беларускі акцэнт маёй бабулі. Яна была з Пагодзіна, з сяла, якое тады Блудзіным называлася, а побач вёска Маліч, гэта Заходняя Беларусь».

«Для мяне гэта паклон маім продкам, якіх ужо няма на гэтым свеце. У цэлым я лічу, што гэта правільна. Калі ў чалавеку ёсць частка гэтага, дык чаму ён павінен гэта хаваць? Ён павінен гэтым ганарыцца. Я люблю Беларусь, у мяне тут шмат сяброў. Стараюся тут бываць часцей», — кажа Макарэвіч.

Дый «Снег» выбралі для запісу на беларускай мове невыпадкова. «У адным з нумароў часопіса «Дзеяслоў» было нямала вершаў і песень маіх, перакладзеных на беларускую. І мне падалося, што менавіта ў гэтай песні найбольш блізка гучаць нашы мовы, проста па наборы слоў гэта было заўважна. І мне прасцей было з ёй працаваць», — сказаў спявак.

Аказваецца, Макарэвіч яшчэ і чытае па-беларуску, і не што-небудзь, а «Дзеяслоў»!

Азбука паліталогіі

# Ці выратуюць сябры беларускую мадэль?



Сяргей НІКАЛЮК

**У Беларусі ёсць гаспадарка, але няма эканомікі, таму што размеркавальныя адносіны пануюць над рынкавымі.**

Мая пляменніца жыве ва ўласным доме ў Токіа. Дом сучасны, з поўным наборам аўтаномных сістэм жыццезабеспячэння. Але зімой, размаўляючы па скайпе, я нязменна бачу яе ў цёплым швэдры.

Зразумела, што за ўсё даводзіцца плаціць, у тым ліку і за кожны дадатковы градус. Але даходы мужа (тыповага прадстаўніка японскага сярэдняга класа) дазваляюць падтрымліваць у доме тэмпературу камфорту круглы год. Сумнявацца ў гэтым не даводзіцца — да вынаходніцтва скайпу пляменніца на тэлефонныя размовы з Пецярбургам выдаткоўвала некалькі тысяч долараў на год, за што тэлефонная кампанія ўвесь час дасылала ёй запрашэнні на навагодні баль.

Ад прыкладу з пляменніцай перайду да прыкладу з падчаркай. Дома зімой і летам яна ходзіць у шортах і майцы. І калі холадна, то ўключае ў сваім пакоі электрычны абагравальнік.

## Хто аплаціў розніцу?

Да ключавых характарыстык культуры належыць пара катэгорый «экстэнсіўнае» і «інтэнсіўнае». Першая катэгорыя апісвае тып чалавечай дзейнасці, у рамках якой змены носяць колькасны характар за кошт уключэння дадатковых рэсурсаў. Другая катэгорыя — якасная. Павелічэнне аб'ёму прадукцыі пры гэтым дасягаецца шляхам аптымізацыі вытворчых працэсаў.

Праілюструю сказанае афіцыйнай статыстыкай. Заработная плата беларусаў з 2000 па 2013 гады павялічылася ў 4,8 раза. Такому бурнаму росту дабрабыту суайчыннікаўварта было б узрадавацца. Але рэкамендую не спяшацца праяўляць пачуццё законнага гонару з нагоды эфектыўнасці беларускай мадэлі. За тыя ж гады прадукцыйнасць працы па ВУП узрасла толькі ў 2,2 раза.

За кошт чаго/каго атрымалася розніца? За кошт расійскіх датацый і знешніх даўгоў. Г. зн. за кошт уключэння дадатковых рэсурсаў. Таму не варта здзіўляцца, што снежаньская дэвальвацыя істотна падкарэктавала зарплату беларусаў у доларавым эквіваленце (400 долараў у студзені).

Катэгорыі «экстэнсіўнае» і «інтэнсіўнае» выходзяць за рамкі эканамічных адносін. Гэта базавыя характарыстыкі нацыянальных культур. Кожнай з іх уласцівы свой узровень інтэнсіўнасці. А на выхадзе мы маем экстэнсіўныя і інтэнсіўныя мадэлі развіцця.

Як тут ні прыгадаць палітыку КПСС, накіраваную на «інтэнсіфікацыю вытворчасці». Праблему меркавалася вырашыць за кошт укаранення ў народную гаспадарку навукова-тэхнічных дасягненняў. Да кожнага савецкага чалавека задачы інтэнсіфікацыі даводзіліся ўсёй моцай дзяржаўнай прапаганды. А чым усё скончылася? «Найвялікшай катастрофай XX стагоддзя». Не здолеўшы выйграць у Захаду тэхналагічную гонку, Савецкі Саюз быў вымушаны сысці з дыстанцыі.

## Папрасіце — і яны набудуць

Не варта забываць, што носьбітам культуры з'яўляецца чалавек. Таму кожнай мадэлі развіцця адпавядае свой базавы тып асобы. У культурах экстэнсіўных ініцыятыўныя і творчыя людзі знаходзяцца на становішчы ізгояў (маргіналаў). Для таго, каб выжыць, творчы чалавек вымушаны эміграваць. У закрытых сістэмах — ва ўнутраную эміграцыю, у адкрытых — у знешнюю.

Дадзеныя Расстата сведчаць, што за першыя восем месяцаў 2014 года Расію пакінула больш людзей, чым за любы поўны папярэдні год праўлення Пуціна (203 659 чалавек у студзені — жніўні 2014 супраць 120 756 чалавек за студзень—жнівень 2013 года). У першую чаргу выязджаюць кваліфікаваныя спецыялісты, здольныя лёгка ўладкавацца за мяжой.

Між іншым, ні ў адной культуры колькасць творчых людзей не перавышае 5%. Таму для таго, каб краіна ўвайшла ў кому, не абавязкова чакаць, калі яе пакіне палова насельніцтва.

Экстэнсіўнай культуры супрацьпаказаны рынак. Яе носьбіты імкнуцца будаваць эканамічныя адносіны, абапіраючыся не на ўніверсальныя нормы і прынцыпы, а на асабістыя дамоўленасці. За прыкладам далёка хадзіць не трэба. 10 лютага адзіны палітык (АП) заслухаў даклад аб актуальных пытаннях будаўніцтва Кітайска-Беларускага індустрыяльнага парку. Цытую паводле афіцыйнага прэс-рэлізу: *«Они (кітайцы) на сотни миллиардов долларов покупают. Как я уже говорил, надо попросить, это наши друзья, пускай купили бы у нас в этом году хотя бы на 2–3 млрд. долларов белорусской продукции, в следующем году — еще».*

Вось такі прыклад эканамічных адносін, заснаваных на сяброўстве. Мы ж не просім нічога бясплатна. Мы просім набыць. Зразумела, па добрых цэнах. А што такое 2–3 мільярды долараў на фоне сотняў мільярдаў кітайскага імпарту?! А калі разглядзець просьбу АП на фоне міжнародных рэзерваў Паднябеснай, якія ўшчыльную наблізіліся да 4 трыльёнаў? А калі на фоне трыльёнаў інвестыцый, выдаткаваных кітайскімі таварышамі на будаўніцтва гарадоў-прывідаў і дарог, якія вядуць у нікуды? Спіс «калі» можна лёгка працягнуць.




Па аналагічнай схеме АП спрабаваў выбудоўваць адносіны з Венесуэлай, у якой, як вядома, *«живут не чужие нам люди»*, а кіраўніцтва *«готово на всестороннее экономическое сотрудничество с нами»*. Сёння ўсе мае спробы адшукаць вынікі гэтага супрацоўніцтва ў афіцыйнай статыстыцы да поспеху не прывялі. Файл «Знешні гандаль» на сайце Белстата на слова «Венесуэла» не адгукаецца.

## Надзея памірае апошняй

У XXI стагоддзі эканомікі, якія абапіраюцца на носьбітаў экстэнсіўнай культуры, не ў стане вырабляць канкурэнтную прадукцыю з высокай доляй дададанага кошту. Іншая справа — прыродныя рэсурсы. І не істотна, здабываюцца яны з уласных нетраў або разграбачаны ад імперскіх амбіцый саюзнік пастаўляе іх па трубаправодах.

У выніку пры ўласнай здабычы нафты каля 1,6 мільёна тон, Беларусь у 2014 годзе экспартавала 13,8 мільёна тон нафтапрадуктаў на 9,96 мільярда долараў. Нафтапрадукты складаюць каля чвэрці беларускага экспарту. Па гэтым паказчыку рэспубліку-партызанку можна смела залічаць у разрад petrostates (дзяржавы, чые багацці вызначаюцца продажам вуглевадародаў).

Але зробім крок убок ад нафтапрадуктаў. Усяго толькі адзін крок, каб не адысці на значную адлегласць ад прыроднай сыравіны. Апрацоўка драўніны і вытворчасць вырабаў з дрэва да высокатэхналагічных галінаў не належаць. Лесу ў Беларусі хапае. Хапіла і сродкаў у бюджэце для мадэрнізацыі дрэваапрацоўчай галіны. Адзін мільярда еўра — сума па беларускіх мерках немалая. А што мы маем на выхадзе?

Паводле інфармацыі, агучанай АП на сустрэчы з прадстаўнікамі беларускіх і замежных СМІ 29 студзеня, *«наибольший прирост производства и экспорта дали предприятия «Беллесбумпрома»*. Усё правільна. Рост экспарту вырабаў з дрэва ў 2014 годзе вырас на 12,5%, але іх імпарт за мінулы год амаль патроіўся! У выніку гандлёвае сальда сышло ў мінус на 40,8 мільёна долараў. Гэта гандаль. Што тычыцца індэкса вытворчасці вырабаў з дрэва, то ў студзені 2014-га да студзеня 2013 года ён склаў 97,6%.

Надзея памірае апошняй. Тое, пра што чалавек пастаянна думае, замацоўваецца ў падсвядомасці. І часам хапае мінімальнага знешняга ўздзеяння (пытання дэпутата, напрыклад), каб прыхаванае ў падсвядомасці было публічна агучана. Прывяду фрагмент стэнаграмы Паслання–2011: *«Мне кажется, что нефть у нас все-таки есть. А если есть нефть, то не может быть, чтобы не прорвало газом. Ученого премьера* (Мясніковіча) *мы взяли, академика. Он чувствует ответственность и будет посматривать, что у нас там делается под толщей земли. Не может быть такого, чтобы человек искал и не нашел... Надо серьезно посмотреть на наши недра»*.

## Гаспадарка замест эканомікі

«Экстэнсіўная стратэгія, — сцвярджае культуролаг Ігар Яковенка, — гістарычна першасная і відавочная ў сітуацыі рэсурснай празмернасці. Пакуль прыдатнай для жыцця чалавека прасторы больш, чым людзей, людзі аддаюць перавагу экстэнсіўнай стратэгіі. Грамадствы, якія падзяляюць экстэнсіўную стратэгію быцця, — грамадствы дарынкавыя».

Экстэнсіўна арыентаваны чалавек імкнецца ўладкаваць жыццё такім чынам, каб рэсурсы былі бясплатныя. Палітыка «нафта ў абмен на пацалункі» ў мільёнаў беларусаў кагнітыўнага дысанансу не выклікае. Не прадукты ж працы Расія абменьвае на пацалункі, а нафту. Нафта чыя? Яна Божая. Значыць, належыць усім.

Чаму прапаганда так лёгка запалохвае большасць расіян і беларусаў магчымасцю знешняй агрэсіі? Таму што ЯНЫ зайздросцяць нашым прыродным багаццям. ЯНЫ спяць і бачаць, як бы іх прысабечыць.

Іншых багаццяў, акрамя прыродных, экстэнсіўна арыентаваны чалавек не здольны сабе ўявіць. Ён не разумее ролі кваліфікаванай працы ў эканоміцы ўжо ў сілу таго факту, што не ў стане засвоіць сучасныя прафесіі.

Між тым, свет імкліва асвойвае інтэнсіўныя стратэгіі. У 1981 годзе нафта прыносіла 93% даходаў эмірата Дубай, сёння — менш за 9% (у цэлым у Эміратах — 27%). На працягу некалькіх дзесяцігоддзяў гэтыя калісьці petrostate навучыўся дыверсіфікаваць крыніцы даходу, інвестуючы нафтадолары ў сферу паслуг. Адзін з напрамкаў інвестыцый — адукацыя. Сёння ў Эміратах адкрылі свае філіялы 30 амерыканскіх і еўрапейскіх універсітэтаў.

Зноў звярнуся па дапамогу да Ігара Яковенкі: «У экстэнсіўных грамадствах ёсць гаспадарка, але няма эканомікі, бо эканоміка пачынаецца там, дзе маргіналізуюцца размеркавальныя адносіны, а вяршэнстве рынак і ўсё набывае сваю цану».

У Беларусі маргіналізуюцца рынкавыя адносіны, і змена ўраду прыкметных карэктываў у гэты працэс не ўнесла. 17 лютага гэта пацвердзіў прэм'ер-міністр Андрэй Кабякоў на пасяджэнні Савета міністраў.

Пачаў ён з прапановы жыць па сродках і павышаць эфектыўнасць працы айчынных прадпрыемстваў. Але скончыў, вылучыўшы з рэальнага сектару эканомікі 106 найбольш значных прадпрыемстваў краіны, на якіх «у ручным рэжыме праводзіцца аналіз фінансавага стану, напрамкі продажаў прадукцыі, ступені закрэдытаванасці».

Усё вышэйсказанае дазваляе мне перайменаваць «беларускую мадэль эканамічнага развіцця» (такая яе афіцыйная назва) у «беларускую мадэль гаспадарчага заняпаду».

Аксана КОЛБ

**Дэмакратычная Расія развіталася з Барысам Нямцовым. Дзясяткі тысяч неабыякавых людзей прыйшлі ў Сахараўскі цэнтр, каб аддаць даніну памяці прынцыповаму, адкрытаму і сумленнаму чалавеку. Ніхто з кіраўніцтва Расіі (ні парламенцкага, ні ўрадавага) на паніхіду не пайшоў.**

# Бывай, Барыс!



## Пачалася эпоха Пуціна

Па словах прэс-сакратара Пяскова, Пуцін не пайшоў на пахаванне, каб «не ствараць нязручнасці і не турбаваць людзей».

Хто забіў Барыса Нямцова? Гэта рытарычнае пытанне. Адказ на яго відавочны. Гэтак жа, як і відавочна тое, што ні сапраўдных выканаўцаў, ні замоўнікаў забойства не назавуць.

Чаму забілі? Маштаб асобы, погляды Барыса Нямцова, яго нежаданне нават ускосна ўдзельнічаць у вайне з Украінай і сталі яго смяротным прысудам. Яго забілі, таму што баяліся. Пуцін — баўся моцы духу і адкрытых поглядаў Нямцова, баяўся, бо бачыў у ім рэальнага канкурэнта, які можа павесці за сабой і нарэшце раскрыць вочы грамадству. Расійскія ватнікі — баяліся праўды, якая была ў кожнай прамове палітыка, праўды, якая раптам прымусіць думаць і прымаць рашэнне. А яшчэ горш — рабіць сапраўдны выбар.

Каго зробяць вінаватым? Не выключана, што ў арганізацыі гэтага забойства абвінавацяць дэмакратаў. Маўляў, каб дыскрэдытаваць уладу, яны пайшлі на забойства свайго паплечніка. А магчыма, і парашэнкаўскіх засланцаў, каб падставіць Пуціна. Тое, што такія версіі нават гучаць абсурдна, — не бяда, расійскае грамадства цягам апошняга года верыць і ў не такі абсурд.

Яшчэ адна магчымая версія, Нямцова забілі патрыёты Расіі, якія не маглі цярпець «яго антырасійскіх выказванняў і падтрымкі «ўкраінскай хунты». Ці якія-небудзь «асобы не славянскай знешнасці» (інгушская версія ўжо гучала), якія ўчынілі ісламскія разборкі.

Карацей, якую б версія не аб'явіла следства за асноўную, яна не будзе мець нічога агульнага з рэчаіснасцю. І дакладна не дасць праўдзівы адказ на пытанне: «Хто замовіў забойства Барыса Нямцова?»

Зараз Пуцін зноў і зноў цвердзіць, што гэта правакацыя... Заяўляе, што будзе праведзена дасканалае расследаванне. Тым часам кожны крок следства пакідае больш пытанняў, чым адказаў. Асабліва пасля з'яўлення нейкага відэазапісу, які ўпарта называюць запісам забойства, знятага камерай відэаназірання. Відэа, якое вельмі нагадвае інсцэніроўку, з'явілася праз суткі, і зараз яго актыўна абмяркоўваюць па ўсім інтэрнэце. І якіх толькі версій не называюць! Вельмі добры ход улады, кінуць масам нешта супярэчлівае для абмеркавання, каб адцягнуць увагу ад галоўнага.

Расійскія следчыя органы — усяго толькі інструмент вялікага гэбісцкага механізму. Таго механізму, які зараз раскручваецца напоўніцу, які хоча зачысціць усё навокал, каб потым адбудаваць свой свет. Свет, у якім будуць панаваць толькі страх і пакорлівасць, дзе няма месца асабістым меркаванням, пазіцыі і поглядам. Няма месца праўдзе і праву выбару.

Яго маглі забіць ціха: атруціць, справакаваць сардэчны прыступ ці яшчэ што. Але Нямцова забілі нахабна і гучна, каб астатнія ведалі — у новай Расіі за погляды забіваюць прылюдна.

Ці магло быць інакш? Пасля лютага 2014 года — дакладна не.

З забойствам Барыса Нямцова сыходзіць у нябыт дэмакратычная эпоха суседняй дзяржавы і пачынаецца зусім новая — эпоха Пуціна. Эпоха страху, зайздрасці, ваяўнічасці і нікчэмнасці. Як хутка яна скончыцца? Гэта залежыць ад таго, колькі ў Расіі яшчэ засталася сапраўдных дэмакратаў і на што яны здольныя.

***P.S.:** Я наўмысна не праводжу паралелі ні з беларускай рэчаіснасцю, ні са сталінскім часам. Наш чытач і так усё разумее.*

# Камунізм пад трыбунал

Сяргей ПУЛЬША

**Распачаўся беларускі грамадскі трыбунал над камунізмам. Ён будзе расцягнуты па часе і павінен скончыцца абвінавачваннем камуністычнай ідэалогіі — 28 кастрычніка, у Дзень памяці ахвяраў палітычных рэпрэсій.**




Гісторык Ігар Кузняцоў, адзін з ініцыятараў гэтага мерапрыемства, адзначае, што ўжо прайшоў агульны грамадскі трыбунал над камунізмам і камуністычнай ідэалогіяй. Гэта было ў Вільні ў 2000 годзе — так званы «Нюрнберг–2».

Пасля «Нюрнбергу–2» узнікла ідэя правесці яшчэ і агульнаеўрапейскі трыбунал па злачынствах камунізму. Гэта быў зварот да кожнай еўрапейскай краіны, каб прайшоў трыбунал, які б асудзіў злачынствы камуністычнага рэжыму ў кожнай канкрэтнай краіне. У Беларусі ў 2006–2008 гадах прайшлі грамадскія слуханні па злачынствах камунізму. «Тады мы прыйшлі да высновы, што ў нас, як ні дзіўна, не стае матэрыялаў для трыбуналу. Вынікам слуханняў было грамадскае абвінаваўчае заключэнне, але і пасля яго мы збіралі новыя факты, новыя публікацыі па тэме рэпрэсій у Беларусі. Зараз арганізатары тых слуханняў вырашылі вярнуцца да ідэі трыбуналу», — распавядае Кузняцоў.

Паралельна ішлі некалькі праектаў: «Архіў вуснай гісторыі», аўдыё і відэаўспаміны сведкаў тых падзей, ствараўся віртуальны музей ГУЛАГа, і Кузняцоў прапанаваў стварыць электронную «Чорную кнігу камунізму», у якой была б сабраная ўся інфармацыя па злачынствах камунізму ў Беларусі.

«Паўдзельнічаць у пасяджэннях трыбунала, падтрымаць маральна ці дадаць свае ўспаміны, дакументы можа кожны. У нас заяўны прынцып удзелу. Няма ніякага колькаснага ці прафесійнага абмежавання», — зазначае Кузняцоў.

Першае пасяджэнне трыбунала прайшло 5 сакавіка невыпадкова. Гэта не толькі дзень смерці Сталіна. У гэты дзень Палітбюро ЦК ВКП(б) прыняло рашэнне пра знішчэнне 22 000 афіцэраў польскага войска, — так званы «Беларускі Катынскі спіс».

«Беларускі Катынскі спіс — адзіны спіс рэпрэсаваных польскіх афіцэраў, якія да нас не дайшоў. Расстраляныя ў Медным, пад Харкавам, у Катыні вядомыя пайменна. Па дакладной запісцы старшыні КДБ Шалепіна ад сакавіка 1959 года 7 305 афіцэраў былі расстраляныя ў турмах Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны. З іх 3 870 — у Беларусі. Ніводнага прозвішча гэтых расстраляных мы не ведаем. У 2011 годзе Лукашэнка заявіў, што за гады савецкай улады ў Беларусі ніводнага паляка не забілі: нібыта, Беларусь была транзітнай тэрыторыяй: палякаў этапавалі ў Расію, Украіну, і знішчалі там, а мы чыстыя перад гісторыяй», — зазначае Кузняцоў.

Аднак, нават па афіцыйных дадзеных рэабілітацыі, якую праводзілі КДБ, Генпракуратура і Вярхоўны суд, з 5 772 вядомых прозвішчаў расстраляных у Мінску каля 25% складаюць палякі па нацыянальнасці.

«Нам кажуць, што «Беларускага Катынскага спісу» няма і быць не можа. Але да нас дайшло некалькі дакументаў аб выдзяленні чыгуначнага транспарту для этапавання ў Мінск трох тысячаў польскіх афіцэраў. То бок, з фармальнага спісу ў 3 870 прозвішчаў 3 000 этапавалі і, верагодна, расстралялі ў Мінску», — зазначае гісторык.

На самай справе, рэпрэсаваных у Беларусі палякаў значна больш, кажа Кузняцоў. З лютага 1940 года па чэрвень 1941-га было праведзена шэсць дэпартацый з Заходняй Беларусі. «Беларускі Катынскі спіс» — гэта толькі фрагмент тых рэпрэсіяў. Па афіцыйных лічбах, колькасць сем'яў, якія падлягалі дэпартацыі — 8 055, колькасць асобаў — 26 777. Але нядаўна расійскія СМІ надрукавалі ліст Хрушчова і Берыі Сталіну, датаваны лютым 1940 года. У ім прапаноўваецца адсяліць 9 600 сямей афіцэраў, 12 000 сем'яў паліцэйскіх, жандараў і супрацоўнікаў турмаў, каля 1000 сем'яў фабрыкантаў і чыноўнікаў, усяго 22–25 тысячаў сем'яў. Афіцыйная статыстыка згубіла каля 68 000 дэпартаваных», — кажа Кузняцоў.

Паводле афіцыйнай статыстыкі, з Заходняй Беларусі з 1940 па 1952 год былі дэпартаваныя 138 882 чалавекі, а насамрэч, кажа Кузняцоў — 244 500 чалавек. «У 1993 годзе эксперты Галоўнай ваеннай пракуратуры Расійскай Федэрацыі, якія вялі «Катынскую справу», на грунце аналізу міжнароднага права вынеслі рашэнне, што расстрэл 22 000 афіцэраў польскага войска з'яўляецца генацыдам. А ў нас — амаль чвэрць мільёна дэпартаваных!» — адзначае Кузняцоў.

Трыбунал разлічаны на 5 сесій. Акрамя «Беларускага Катынскага спісу» плануецца разглядзець ваенныя рэпрэсіі і рэпрэсіі да вайскоўцаў, ліквідацыю сялянства, калектывізацыю, рэпрэсіі інтэлігенцыі і хвалю рэпрэсій 1937–1938 гадоў.

«Я не хачу перабольшваць планаваныя вынікі. Гэта робіцца з адной мэтай: калі дзяржава не можа даць юрыдычную ацэнку камунізму, то грамадства павінна даць хаця б маральную ацэнку таму, што адбылося ў тыя крывавыя гады», — лічыць Кузняцоў.

Гэта важна для моладзі, бо яна зараз не ведае, што такое Курапаты і Катынь. Гэта важна для захавання гістарычнай памяці, бо публікацыі па сталінскіх рэпрэсіях, якіх было шмат у гады перабудовы, зараз забытыя. Галоўная задача — сістэматызаваць інфармацыю, перавесці яе ў электронны выгляд, каб да яе быў доступ.

«У Беларусі, гавораць, няма сям'і, якая б не пацярпела ад фашыстаў. Але ў нас няма сям'і, якая б не пацярпела б і ад сталіністаў. І таму мы спадзяемся, што, узгадаўшы гэтую тэму, кожны беларус згадае і сваіх родзічаў. І ўсе могуць дасылаць да нас свае расповеды, згадкі, успаміны, каб мы іх далучылі ў «Чорную кнігу камунізму», — кажа Кузняцоў.

TV

## 15 САКАВІКА, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**07.20** Меладрама «Кружоўнік» (Расія).
**09.00** Навіны.
**09.10** «Арсенал». Праграма пра армію.
**09.40** XXL WOMAN TV. Жаночы часопіс.
**10.15** Камедыйны серыял «Трохі не ў сабе» (Расія). Заключная серыя.
**11.25** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**12.00** Навіны.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**13.05** Таямніцы следства.
**13.35** Каробка перадач.
**14.15** «Terra incognita». Беларусь невядомая.
**14.45** Нашы.
**15.00** Навіны.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Вакол планеты.
**16.15** Тэлефільм АТН цыклу «Вялікі рэпартаж».
**16.50** Выхад ёсць.
**17.25** Меладрама «Дочкі-маці» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Навіны надвор'я.
**22.15** Меладрама «Каханне прыходзіць не адно» (Расія).
**00.05** Камедыйны серыял «Трохі не ў сабе» (Расія). Заключная серыя.

### АНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.45** «Фазэнда».
**11.20** «Ералаш».
**11.30** «Брэйн-рынг».
**12.40** «Да юбілею тэатра».
**13.40** «Голас. Дзеці».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Першая сусветная».
**17.10** «Рыхт-у-рыхт».
**20.00** Контуры.
**21.05** «Кахае - не кахае». Камедыя.
**23.35** «Джулія». Мастацкі фільм.

### СТВ

**06.15** «Студэнты International». Серыял.
**07.25** «Сардэчна паскардзіцца».
**07.45** Тэлечасопіс «Аўтапанарама».
**08.10** Фільм «Крабат. Вучань ведзьмака» (Германія, 2008 г.).
**10.15** «Чыстая праца».
**11.00** «Вялікі сняданак».
**11.40** «На 10 гадоў маладзейшы».
**12.10** Фільм «Шэрлак Холмс і доктар Ватсан: крывавы надпіс» (СССР, 1979).



**13.30** «24 гадзіны».
**13.40** «Добры дзень, доктар».
**14.15** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** Тэлечасопіс «Аўтапанарама».
**17.20** «Ваенная таямніца».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Целаахоўнік» (ЗША, 1992 г.).
**23.00** «Дакументальны праект».
**00.45** Фільм «Шэрлак Холмс і доктар Ватсан: крывавы надпіс» (СССР, 1979).

### Беларусь 2

**07.05** Гістарычная меладрама «Тыгр, што крадзецца, цмок, што затаіўся» (Тайвань - Ганконг - Кітай).
**09.00** Вышэй за дах.
**09.35** Анімацыйны серыял «Пінгвіны з Мадагаскара» (ЗША).
**10.35** «Fitnews». Праграма пра прыгажосць і здароўе.
**11.15** Тэлебарометр.
**11.20** Ваша лато.
**11.50** Латарэя «Пяцёрачка».
**12.00** «Зразумець і абяссшкодзіць». Аўтарскі праект.
**12.55** Камедыйны серыял «Ландыш серабрысты» (Расія).
**14.40** Я хачу гэта ўбачыць!
**15.25** Біятлон. Чэмпіянат свету. Масстарт. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**16.20** Трылер «127 гадзін» (ЗША - Вялікабрытанія).
**18.10** Біятлон. Чэмпіянат свету. Масстарта. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**19.15** Суперлато.
**20.05** Кіпень.
**20.25** Тэлебарометр.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.30** Баявік «Вяртанне універсальнага салдата» (ЗША).
**23.05** «Перазагрузка». Маладзёжнае ток-шоў.
**23.50** Містычны трылер «Омэн» (ЗША).

### Беларусь 3

**08.00** Калейдаскоп.
**08.10** «Не страляйце ў белых лебедзяў». Драма. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1980 г.).
**10.25** «Подых струн». Музычная праграма. Госці: дуэт "Доля" - Іна Шабельная і Святлана Пышненка.
**11.05** «Наперад у мінулае».
**11.30** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**12.25** Калейдаскоп.
**12.35** «Лёс гігантаў». «Трабант».
**13.00** «Шарада». Камедыйная меладрама (ЗША, 1963 г.).
**14.55** «Раман з лёсам». Ала Дзямідава. Пад грымам і маскай. Дакументальны фільм.
**15.20** «Каб любіць Беларусь..» Канцэрт ансамбля народнай музыкі «Бяседа».
**16.40** Калейдаскоп.
**16.50** «Олівер Твіст». Драма (Вялікабрытанія, 1948 г.).
**18.40** «Культпрасвет».
**19.15** «Раба кахання». Меладрама (СССР, 1975 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.00** «Сустрэча напрыканцы зімы». Драма (СССР, 1978 г.).
**22.20** Творчы вечар народнага артыста СССР Расціслава Янкоўскага.
**23.20** «Культпрасвет».
**23.55** Калейдаскоп.

### Беларусь 5

**05.00** PRO спорт. Навіны.
**06.15** PRO спорт. Навіны.
**06.30** Тэніс. Турнір ВТА. Індыян-Уэлс. Прамая трансляцыя.
**08.30** PRO спорт. Навіны.
**08.45** Формула-Е. Гран-пры Маямі.
**09.55** Футбол. Суперкубак Беларусі. «Шахцёр» (Салігорск) - БАТЭ (Барысаў).
**11.45** Біятлон. Чэмпіянат свету. Эстафета. Мужчыны.
**13.15** Баскетбол. НБА. «Мэмфіс» - «Мілўокі».
**15.05** Хакей. Чэмпіянат Беларусі. Паўфінал. Пяты матч.
**16.55** Хакей. КХЛ. Паўфінал Заходняй канферэнцыі. Трэці матч. Прамая трансляцыя.
**19.00** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Манчэстар Юнайтэд» - «Тотэнхэм». Прамая трансляцыя.
**21.05** Біятлон. Чэмпіянат свету. Масстарт. Жанчыны.
**22.10** Гандбол. SEHA-ліга. «Металург» - БГК ім.Мяшкова. Прамая трансляцыя.
**23.45** Баскетбол. НБА. «Кліпэрз» - «Х'юстан».
**01.30** Тэніс. Турнір ВТА. Індыян Уэлс. Прамая трансляцыя.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.10** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**07.45** Казкі для дзетак.
**08.25** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**08.55** «Палута Бадунова. Успомніць і не забыць», дак. фільм.
**09.40** Беларусы ў Польшчы.
**09.55** Два на два (тэледыскусія): Святлана Куль і Юрый Чавусаў.
**10.30** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.55** Казкі для дзетак.
**11.35** «Тры шалёныя нулі», тэлесерыял: 5 серыя: «Шалёныя планы».
**12.00** Мова нанова: «Рэклама».
**12.15** 54 % (публіцыстычная праграма).
**12.40** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**13.15** «Mad Men. Утрапёныя IV», серыял.
**14.05** «Блакада Ленінграда», дак. фільм.
**14.55** «Алі», маст. фільм.
**17.30** Два на два (тэледыскусія): Святлана Куль і Юрый Чавусаў.
**18.00** Людскія справы: Вайна побач з намі.
**18.35** «Час гонару», тэлесерыял.
**19.20** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**19.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма): Паўстанне Тадэвуша Касцюшкі.
**20.00** Эксперт (сатырычная праграма).
**20.30** «Песні вайны», дак. фільм, 2010 г., Германія.
**21.25** Кінаклуб: «Ціхі хаос».
**21.35** «Ціхі хаос», маст. фільм.
**23.25** «Востраў Крым. Deja vu», дак. фільм.
**00.00** «Mad Men. Утрапёныя IV», серыял.

---

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, афоpміўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 301274 1108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 22 0004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 22 0113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема ______ ч. _____ мин.
Подпись

# Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 4500 руб., аднаго месяца — 18000 руб.
**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**
«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 651-21-12.**



КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

| Счет получателя | 3012741108019 | Лицевой счет | Код 739 |
|---|---|---|---|
| УНП* | 190790926 | | |

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

Период подписки указывает абонент

Плательщик

Пеня ________

Кассир Всего ________

# Рэха Галіпалі

Алег НОВІКАЎ

**Сто гадоў таму высадзіўся дэсант у Галіпалі. Аперацыя войскаў Антанты атрымала назву «Дарданельская» і дасюль застаецца малавядомай у нас старонкай гісторыі Першай сусветнай вайны.**



**Дарданельская аперацыя ў свой час стала баявым хрышчэннем ANZAC (Аўстралійскія і Новазеландскія армейскія карпусы) — фармавання ўнутры брытанскіх войкаў. Дасюль бітва за Галіпалі з'яўляецца самай буйной бітвай у вайсковай гісторыі гэтых дзяржаў**

Антанта планавала захапіць Басфорскі праліў, каб дэблакіраваць саюзную Расію, чый флот быў зачынены ў Чорным моры. З гэтай мэтай Уінстан Чэрчыль — тагачасны лорд адміралцейства, дабіўся згоды на адпраўку англа-французскага дэсанту для акупацыі Канстанцінопаля.

Такім чынам, 19 лютага 1915 года саюзны флот пачаў бамбіць асманскія фартыфікацыі на Галіпальскім паўвостраве — паўвостраў у еўрапейскай частцы Турцыі, што размешчаны паміж Эгейскім морам і пралівам Дарданелы. 26 красавіка пачалася высадка дэсанту. Хаця англа-французскія войскі здолелі высадзіцца і стварыць плацдарм, выканаць галоўную задачу ў іх не атрымалася. Туркі так і не далі ім прасунуцца далёка ад берага. Пасля некаторых беспаспяховых спробаў прарваць лінію фронту Лондан і Парыж вырашылі ў студзені 1916 года эвакуяваць свае часткі. Лічыцца, што галоўнымі вынікам баталіі за Дарданелы стала адстаўка Уінстана Чэрчыля і ўступленне ў вайну Балгарыі на баку Цэнтральных дзяржаў.

На першы погляд, падзеі на Галіпалі ніяк не звязаныя з цяперашнімі рэаліямі. Аднак на самай справе тая далёкая бітва можа адгукнуцца на цяперашніх палітычных працэсах.

Перш за ўсё, юбілейныя ўрачыстасці, якія пачынаюцца, паўплываюць на грамадска-палітычную дыскусію ў Аўстраліі і Новай Зеландыі. Дарданельская аперацыя ў свой час стала баявым хрышчэннем ANZAC (Аўстралійскія і Новазеландскія армейскія карпусы) — фармавання ўнутры брытанскіх войкаў. Дасюль бітва за Галіпалі з'яўляецца самай буйной бітвай у вайсковай гісторыі гэтых дзяржаў. Дзень пачатку дэсантнай аперацыі — 25 красавіка — з 20-х гадоў мінула стагоддзя адзначаецца як нацыянальны Дзень памяці.

Аднак за сто гадоў падыходы да подзвігаў ANZAC у Турцыі кардынальна змяніліся. Усё больш становіцца папулярным тэзіс пра тое, што масавае вынішчэнне маладых людзей у незразумелай вайне на іншым канцы зямнога шара не мела ніякага сэнсу. На думку аўстралійскіх феміністак, культ ANZAC шмат у чым паспрыяў стварэнню інстытутаў дамінавання мужчын у аўстралійскім грамадстве і палітычным жыцці. Гісторыкі скардзяцца, што з-за вялікіх маштабаў свята 25 красавіка гісторыя Аўстраліі аказалася паступова вельмі арыентаванай на гісторыю Еўропы. Адпаведна, аўстралійцы выпалі з кантэксту гісторыі азіяцкага рэгіёну, у якім геаграфічна знаходзіцца пяты кантынент. Высвятляюцца і некаторыя малавядомыя старонкі гісторыі. Цяпер ужо вядома, што журналісцкая карэспандэнцыя ў Аўстралію і Новую Зеландыю праходзіла жорсткую цэнзуру. Матэрыялы, на аснове якіх фармавалася ўяўленне пра ANZAC у калоніях, дазвалялася пісаць выключна ў патрыятычна-бравурным стылі.

Некалькі гадоў таму ў Аўстраліі ўзнік рух за скасаванне святкавання так званага дня ANZAC. У гэтым годзе аматары гэтай ідэі ў штаце Вікторыя дабіліся першай перамогі — тут свята адзначаць не будуць. Па меры набліжэння 25 красавіка дыскусія вакол Галіпалі будзе толькі напаляцца, паколькі наўпрост датычыцца пытання, ці трэба Аўстраліі фармальна заставацца адзінкай брытанскай манархіі? Ход святкавання паўплывае таксама на выніку анансаванага ў Новай Зеландыі рэферэндуму аб змене дзяржаўнага сцяга, элементам якога ёсць выява брытанскага «Юніён Джэка».

Галіпалі будзе тэмай і еўрапейскай палітыкі. Справа ў тым, што Анкара — арганізатар афіцыйных урачыстасцяў, нечакана вырашыла перанесці дату мерапрыемства на 25 красавіка (звычайна ў Турцыі бітву за Галіпалі ўзгадваюць 17 сакавіка, калі турэцкія марскія мінёры і артылерыя ў адным з баёў нанеслі вялікую шкоду англа-французскаму флоту). Шмат хто з палітолагаў падазрае, што каляндарныя фінты турэцкіх уладаў тлумачацца тым, што на 25 красавіка гэтага года таксама выпадае стагоддзе пачатку армянскіх пагромаў у Асманскай Імперыі (у выніку дэпартацый і рэпрэсій тады, па розных ацэнках, было забіта ад 200 тысяч да 2 мільёнаў чалавек). Гэта тэма традыцыйна не вельмі прыемная для афіцыйнай Анкары і, магчыма, за кошт гадавіны Галіпалі турэцкія ўлады жадаюць адцягнуць увагу ад іншай даты.

У выніку мы маем парадаксальную сітуацыю, калі ўдзел у афіцыйных мерапрыемствах з нагоды Дарданельскай бітвы можа разглядацца як адмова ад прызнання генацыду армян. Менавіта на гэтым робіць акцэнт Ерэван. Сёння шматлікія лідары дзяржаў (усяго Анкара даслала запрашэнні каля ста палітыкам) ламаюць галаву, ці трэба ім ехаць на святкаванні ў Галіпалі. Быццам, на цяперашні момант прыехаць 25 красавіка ў Турцыю пагадзіліся каля пяці кіраўнікоў, уключаючы лідараў Аўстраліі і Новай Зеландыі. Самая цяжкая дылема, натуральна, стаіць перад Франсуа Аландам. Парыж не можа ігнараваць той факт, што ў той бітве загінула каля 26 тысяч французаў. З іншага боку, армянская дыяспара і яе палітычнае лобі вельмі ўплывовыя ў Францыі.

Хутчэй за ўсё, гадавіна Галіпалі прымусіць панервавацца таксама і Ангелу Меркель. Яшчэ ў мінулым годзе гісторыкі пачалі казаць, што Асманская імперыя, пачынаючы зачыстку армянскага насельніцтва, мусіла атрымаць санкцыю з Берліну, сатэлітам якога па сутнасці была. Вядома, што кайзер Вільгельм, сапраўды, неяк абмовіўся наконт таго, што рэпрэсіі супраць армян не з'яўляюцца ў яго вачах чымсьці жудасным.

Праўда, пытанне, ці будзе ўзнятая тэма ўдзелу Германіі ў генацыдзе армян, застаецца адкрытым. Затое можна дакладна прагназаваць шквал гістарычных спекуляцый. На днях брытанскі гісторык Дональд Блоксхэм напісаў, што пралогам масакры армян стала пазітыўная рэакцыя армянскай інтэлігенцыі Канстанцінопаля на навіну пра высадку саюзнікаў у Дарданелах. На яго думку, такая нелаяльная пазіцыя, быццам, і спраўкавала асманскія ўлады на запуск машыны тэрору супраць армян. У расійскай прэсе можна наткнуцца на тэзіс пра тое, што дэсант у Галіпалі быў праявай старажытнай традыцыі недаверу Захаду да Расіі. Быццам, англічане ў лютым 1915 года жадалі акупаваць Басфоры, каб не аддаць іх пасля вайны Раманавым, як патрабавалі раней заключаныя паміж сябрамі Антанты сакрэтныя дамовы.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Цяпер Мінск апынуўся ў складанай сітуацыі. Па-першае, становіцца відавочным, што Жаныш Бакіеў сапраўды прывык дзейнічаць крымінальнымі метадамі, і што астатнія абвінавачванні супраць яго, хутчэй за ўсё, маюць пад сабой рэальную аснову, а не проста палітычна матываваныя. Па-другое, зусім не зразумела, што з ім цяпер рабіць (...) Навошта наогул Аляксандру Лукашэнку, які пазіцыянуе сябе амаль што сацыялістам і вядомы жорсткімі метадамі барацьбы з арганізаванай злачыннасцю, спатрэбілася даваць прытулак сям'і Бакіевых, можна толькі здагадвацца. Наўрад ці магчымыя інвестыцыі гэтых нябедных людзей у эканоміку Беларусі маглі стаць дастатковай прычынай. Найбольш праўдападобнай выглядае версія, што Лукашэнка праз прытулак Бакіеву зацвердзіў сябе ў ролі аднаго з нямногіх наднацыянальных арбітраў у былым СССР — разам з Пуціным і Назарбаевым.

**«Росбалт» (Расія)**

Рэйтынгавае агенцтва Moody's у пачатку тыдня паставіла на асаблівы кантроль крэдытны рэйтынг Беларусі — гэта значыць, пагражае правесці яго паніжэнне. На думку кампаніі, гэта брацкая для Расіі славянская дзяржава ў галіне эканомікі апынулася ў фатальнай залежнасці ад Масквы. У парыве шчырасці беларускі прэзідэнт нядаўна нават сам прызнаў, што даўгі яго краіны павінны быць рэструктураваныя. Аднachасова ён выказаў сваё расчараванне з нагоды нядаўна створанага Еўразійскага саюза. Лукашэнка не лічыцца асабліва ручным, і ў яго, хутчэй, халодныя адносіны з гаспадаром Крамля.

**«Die Welt» (Германія)**

Ва ўмовах санкцый з боку Захаду за пераслед апазіцыі і вечнае знаходжанне на прэзідэнцкай пасадзе, Аляксандр Лукашэнка не можа адмовіцца ад фінансавай дапамогі Крамля. Але заявы рабіць можна. Прычым, звычайна, пасля рэзкіх нацыяналістычных заяў ён робіць супрацьлеглыя. Але чым даўжэй працягваецца вайна ва Украіне, тым больш упарта Лукашэнка глядзіць на Захад. Уласна, Лукашэнку трэба глядзець на Захад з цалкам прагматычных меркаванняў. Санкцыі, якімі Захад абклаў Расію, ударacць не толькі па расійскай эканоміцы. Усё, што эканамічна звязана з Масквой, адчувае на сабе не толькі падзенне тавараабароту з «вялікім братам», але і перажывае рост курсу долара-еўра.

**«Сегодня» (Украіна)**

Няма ў нас і сепаратызму. Калі б з'явіўся намер стварыць яго штучна (жадаючыя заўсёды знойдуцца), патэнцыял можна было б шукаць у сілезцаў і кашубаў, але гэтыя групы зусім не славяцца сваёй любоўю да Расіі. На польскіх украінцаў Маскве разлічваць, пэўна, не прыходзіцца. Застаюцца беларусы, якія кампактна жывуць у рэгіёне Падляшша. За адсутнасцю лепшых варыянтаў можна было б выступіць у абарону іх як часткі Рускага свету і праваслаўнай супольнасці, але тады спатрэбіцца падтрымка Мінска. Між тым, Аляксандр Лукашэнка сам баіцца «зялёных чалавечкаў» на сваёй тэрыторыі і ўжо пачаў рыхтаваць узброеныя сілы, каб яны, у выпадку неабходнасці, маглі іх нейтралізаваць. Так што ні пра якую падтрымку беларускага ірэдэнтызму ў Польшчы гаворкі быць не можа. Гэты варыянт таксама адпадае.

**«Rzeczpospolita» (Польшча)**

Усё больш прадпрыемстваў Беларусі вымушаны не толькі пераходзіць на скарочаны працоўны графік, але і звальняць супрацоўнікаў. Па прагнозах, канца негатыўнай тэндэнцыі не прадбачыцца. Чакаць ажыўлення на расійскім напрамку ў бліжэйшай перспектыве наўрад ці можна, а пошук новых рынкаў збыту патрабуе пэўнага часу і дадатковых выдаткаў. Вырашыць некаторыя праблемы можна было за кошт змены эканамічных прыярытэтаў, паколькі да гэтага часу з кіраўнікоў прадпрыемстваў патрабуюць дасягненняў валавых паказчыкаў.

**«Deutsche Welle» (Германія)**

Польшча павінна імкнуцца да таго, каб за яе ўсходняй мяжой знаходзіліся партнёры, з якімі можна кантактаваць у рамках еўрапейскіх стандартаў, а не за межамі іх поля. Варта ўсведамляць, што кожная дзяржава, якая здольная падтрымліваць сваю незалежнасць у адносінах ад Расійскай імперыі — гэта важны ўклад у стабільнасць нашага рэгіёну Еўропы. Гэта дзяржава (Беларусь), калі ўлічваць яе памер, нацыянальную кансалідацыю і пэўны дзяржаўны і інстытуцыянальны ўклад, магла б аднойчы хутка ўвайсці ў Еўрапейскі саюз. Хутчэй, чым вялікая Украіна са сваёй складанай унутранай сітуацыяй. Застаецца толькі праблема пераходу беларускай улады да еўрапейскай мадэлі.

**«Fronda» (Польшча)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### МАЛДОВА. Гагаузскую мову выратуе Facebook

На цяперашні дзень у сумным спісе моваў, што паміраць, знаходзіцца каля шасці тысяч моваў. Сярод іх і гагаузская, якой карыстаецца каля 10–15 працэнтаў насельніцтва аўтаноміі, якая ўваходзіць у склад Малдовы. Не дзіўна, што актывісты мясцовых культурных арганізацый намагаліся выкарыстаць Міжнародны дзень мовы, каб звярнуць увагу на праблему. Праўда, падышлі яны да гэтага нетрадыцыйна — заклікалі суайчыннікаў у гэты дзень пісаць пасты ў сацыяльных сетках на роднай мове. «Сёння ўвесь свет святкуе дзень роднай мовы. Наша родная мова ўключана ў спіс знікаючых моваў ЮНЭСКА. Давайце захаваем родную мову, і хоць бы сёння, 21 лютага, будзем пісаць свае статусы па-гагаузску», — заклікала арганізацыя па абароне гагаузскай мовы. Цяжка сказаць, якімі былі вынікі ініцыятывы, аднак, думаецца, у гагаузаў яшчэ ёсць шанс выратаваць сваю мову — гагаузская мова трапіла ў спіс выміраючых толькі ў 2010 годзе.

**Паводле малдаўскай прэсы**

### АРГЕНЦІНА. Новы палітычны дызайн песа

Аргенцінскі цэнтральны банк прадставіў новы дызайн купюры ў 50 песа. Цяпер на іх будзе выяўлена мапа Фальклендскага (Мальвінскага) архіпелагу, які амаль дзвесце гадоў з'яўляецца яблыкам разладу паміж Аргенцінай і Вялікабрытаніяй. Новую банкноту вырашылі запусціць як доказ таго, што Аргенціна ніколі не адмовіцца ад правоў на выспы, якія сёння кантралюе Лондан. Анонс запуску ў абарот новага песа выклікаў вялікі рэзананс на выспах, дзе галоўным чынам жывуць этнічныя брытанцы. Але збольшага ўсе смяюцца з таго, што аргенцінскія ўлады ў часы інфляцыі нацыянальнай валюты вырашылі займацца дызайнам грошай. «Нічога сабе — аргенцінцы яшчэ маюць каляровыя прынтары», — піша адзін з мясцовых блогераў. Як не дзіўна, аргенцінцы, якія ў масе выступаюць за вяртанне суверэнітэту над Фальклендамі, у сацыяльных сетках падтрымалі брытанцаў. Шмат хто жартам прагназуе хуткі выхад новай купюры з абароту, калі інфляцыя, што склала ў мінулым годзе 40 працэнтаў, працягнецца. Вартасць новай купюры на сёння складае каля 5 долараў ЗША.

**Паводле брытанскай прэсы**

### ТАДЖЫКІСТАН. Новы-стары парламент абраны

У Таджыкістане ў лепшых традыцыях цэнтральна-азіяцкага аўтарытарызму прайшлі выбары ў ніжнюю палату парламенту. Перамагла на іх, як і трэба было чакаць, Народна-дэмакратычная партыя, лідарам якой з'яўляецца прэзідэнт Эмамалі Рахмон. Рахмонаўцы атрымалі 70 працэнтаў галасоў па партыйных спісах. Апазіцыйныя Партыя ісламскага адраджэння Таджыкістану (ПІАТ) і сацыял-дэмакраты не атрымалі неабходных для праходжання ў парламент працэнтаў. Лідары ісламістаў і эсдэкаў дружна кажуць пра фальсіфікацыі. Найбольш цікавая сітуацыя вакол ПІАТ, якая ўпершыню з часоў прыпынення грамадзянскай вайны не прайшла бар'ер у 5 працэнтаў. Экспертная супольнасць СНД баіцца, што гэта можа ўзмацніць радыкальныя настроі сярод мясцовых мусульман і стварыць плацдарм для пранікнення ў краіну ісламскага экстрэмізму з суседняга Афганістану. У гэтым плане цікава, што фальсіфікацыі супраць ПІАТ асудзіла амерыканскае пасольства, якое раней асцярожна ставілася да гэтай структуры. Праўда, яшчэ не вядомыя вынікі па мажарытарных акругах, на якіх таксама балатуюцца прадстаўнікі ПІАТ.

**Паводле расійскай прэсы**

### ЗША. Мадонна супраць Марын Ле Пен




Атрымала свой працяг амаль ужо забытая гісторыя трохгадовай даўніны, калі амерыканская поп-зорка Мадонна спявала ў Парыжы на фоне камбінаванай выявы свастыкі і Марын Ле Пен (лідара французскай партыі «Нацыянальны фронт»). Той скандал замялі, пасля таго, як спявачка заявіла, што хацела папросту выказаць пратэст супраць росту ў краіне ксенафобіі і антысемітызму. Аднак цяпер адносіны паміж поп-зоркай і палітыкам зноў абвастрыліся. Падчас візіту ў Лондан Мадонна заявіла, што цяперашняя Францыя нагадвае ёй Германію 1930-х гадоў перад прыходам Гілера да ўлады. Усе адразу пабачылі тут паралелі з Марын Ле Пен, якая з'яўляецца фаварытам прэзідэнцкіх выбараў 2017 года. Пакуль кіраўніцтва «Нацыянальнага фронту» ніяк не каментуе выказванні амерыканскай поп-зоркі. На думку каментатараў, канфлікт абвострыцца, калі гэтай вясной Мадонна прыедзе ў Францыю, каб даць канцэрт у рамках рэкламы свайго новага альбому «Rebel heart».

**Паводле іспанскай прэсы**




# Дзень жанчын або Дзень жалобы?

Алег НОВІКАЎ

**Напярэдадні 8 сакавіка ва Украіне зноў абвастрылася дыскусія, ці трэба святкаваць Міжнародны жаночы дзень.**

Адзін з самых папулярных тэзісаў у прамовах спікераў украінскай эліты: рэвалюцыя на Майдане — з'ява больш маштабная. Кажучы словамі палітолага Віталя Портнікава, год таму ў цэнтры Кіева нарадзілася новая палітычная нацыя, якая цывілізацыйна разарвала з постсавецкай Украінай.

Адсюль вялікая ўвага грамадства і ўлады да розных праяваў савецкай спадчыны ў масавай культуры, якія часта ўспрымаюцца як крамольныя. Датычыцца гэта культурная вайна і календара. Так, на апошняе 23 лютага ўвесь афіцыйны агітпроп быў мабілізаваны на тое, каб даводзіць масам ідэю пра тое, што сапраўдным днём абаронцы айчыны ва Украіне з'яўляецца 14 кастрычніка (у мінулым годзе Парашэнка зрабіў гэты дзень днём украінскага войска). Сам прэзідэнт напярэдадні 23 лютага публічна звярнуўся да жонкі з просьбай не віншаваць яго ў гэты дзень. Супраць рэтраградаў нават давялося ўжываць рэпрэсіі. У Харкаве ахвярай стала жанчына — капітан міліцыі, якая павіншавала 23 лютага сваіх калег. Праўда, як смяяліся на інтэрнэт-форумах, лепшым анаболікам супраць савецкіх каляндарных перажыткаў аказаліся не цыркуляры, а новае падвышэнне долару адносна грыўні. Шмат хто з аматараў мужчынскага дня вырашыў зэканоміць і не накрываць у гэты дзень святочны стол.

Не паспелі заціхнуць скандалы, звязаныя з 23 лютага, як аўтаматычна паўстала пытанне 8 сакавіка. Ужо 27 лютага кіеўскі мэр Віталь Клічко выступіў з ініцыятывай закону аб дэсаветызацыі ўкраінскіх святаў. Па яго меркаванні, перш за ўсё трэба ўнесці ў чорны спіс «23 лютага і 8 сакавіка». «Я са школы не адзначаю ні 23 лютага, ні 8 сакавіка. Я не разумею, як дзеці ў школе могуць адзначаць гэта свята. Або чаму яго фанатычна адзначаюць тыя, хто не служыў у войску і не ведае, што гэта такое. Таксама я не разумею, як можна адзначаць 8 сакавіка ў краіне, дзе на дзяржаўным узроўні прызнаюцца прынцыпы непрымання жанчын у актыўным грамадска-палітычным жыцці. Гэта выглядае штучна, няшчыра і незразумела», — падзяліўся з прэсай сваімі думкамі Клічко.

Яшчэ ў часы перабудовы ўкраінскія правыя выступалі за выкрэсліванне 8 сакавіка са спісу святаў. Ім не падабаўся не толькі сацыялістычны падтэкст гісторыі свята, але і яўрэйскае паходжанне Клары Цэткін і Розы Люксембург. Адсюль вар'яцкая тэорыя пра тое, што 8 сакавіка — гэта закамуфляванае яўрэйскае свята, прычым, якое сацыялісты навязалі ўсяму свету пад соусам жаночага дня.

Праўда, гэта далёка не самая экстравагантная аргументацыя супраць святкавання 8 сакавіка. Так, ненавіснікі свята звяртаюць увагу на тое, што гэты дзень быў чорным ва ўкраінскім гістарычным календары. Па-першае, у 1169 годзе ў гэты дзень маскоўскі князь Андрэй Багалюбскі штурмам узяў Кіеў і разрабаваў горад (праўда, у гэтым яму актыўна дапамагала частка ўкраінскіх князёў, незадаволеных Кіевам). А ў 1946 годзе менавіта 8 сакавіка пачаў працаваць так званы Львоўскі сабор, вынікам якога стала ліквідацыя Украінскай Грэка-каталіцкай царквы. Рэдакцыя нацыяналістычнага часопісу "Тустань" з гэтай нагоды не так даўно нават прапанавала абвясціць 8 сакавіка Днём агульнаўкраінскай жалобы.

Яшчэ адна папулярная ў гэтых колах тэма звязаная з легендай пра тое, што 8 сакавіка прыдумалі прастытуткі. Вось што піша партал «Проти Всіх»: «У 1895 годзе, 8 сакавіка, прастытуткі Чыкага выйшлі на дэманстрацыю з патрабаваннем выплаціць матросам зарплату. У апошніх проста не было грошай, каб расплаціцца з прадстаўніцамі старажытнай прафесіі. Праз год, 8 сакавіка 1896 года, тое ж самае адбылося ў Нью-Ёрку». Менавіта са спасылкай на гэту легенду, пачынаючы прыкладна з 2010 года, у Львове штогод на 8 сакавіка праходзяць пікеты за яго адмену.

Трэба сказаць, што далей за Заходнюю Украіну рух супраць 8 сакавіка ніколі не выходзіў. Гэта, безумоўна, тлумачыцца тым, што на захадзе захаваліся больш моцныя царкоўныя традыцыі, а сам край не быў настолькі саветызаваны, як іншыя рэгіёны Украіны. Таму Дзень маці, які святкуюць тут у траўні, шмат кім успрымаецца як сапраўдны жаночы дзень. Аднак у мінулым годзе заклікі супраць 8 сакавіка пашырылі сваю геаграфію далёка на ўсход і, як бачым, сталі часткай дыскурсу ўлады.

Цяперашнюю сітуацыю вакол свята 8 сакавіка ва Украіне і перспектывы развіцця сітуацыі пракаментаваў для НЧ кіеўскі палітолаг Юрый Палянін:

— Святкаванне 8 сакавіка даўно ўкаранілася ў народных масах як частка традыцыі, якая з фемінізмам наогул не мае карэляцыі, а з левай ідэяй — толькі рэтраспектыўна і для палітычна-прапагандысцкіх маніпуляцый. Па сутнасці, гэта традыцыя ў існуючым выглядзе — цалкам, так бы мовіць, спажывецкая і мяшчанская. Дакучлівую барацьбу з гэтай традыцыяй вяла толькі частка маргіналаў, што абсалютна была не адэкватна з-за адсутнасці моцнай падтрымкі. Да перамогі Майдану — гэта было доляй палітычнай перыферыі, а не мас. Але цяпер, вядома, усе перыферыйныя радыкальныя канструкты запатрабаваныя і пастаўленыя на мас-медыйны паток. Пакуль цяжка прагназаваць, ці дасць гэта выхлап у выглядзе масавай адмовы ад традыцыі 8 сакавіка або створыць чарговы дысананс паміж ідэалогіяй эліты і звычкамі простых людзей.

# Замахі, грамадства, дзяржава

Алег НОВІКАЎ

**Мінулае стагоддзе і першыя гады XXI бачылі шмат забойстваў лідараў палітычнай апазіцыі. Як грамадства і дзяржава звычайна рэагуюць на такія злачынствы?**



Да таго, як забілі Барыса Нямцова, два гады таму гучна прагрымеў у сусветных СМІ замах на Чокры Белаіда — лідара туніскай левай апазіцыі. Палітык быў паранены 13 лютага 2013 года двума кулямі, у шыю і ў галаву, калі выходзіў з дому. Яго тэрмінова даставілі ў лякарню, але было позна. Забойства лідара апазіцыі ўскалыхнула Туніс: у самой краіне і за яе межамі паднялася хваля пратэстаў супраць кабінету ісламістаў. Аднак урад і МУС здолелі ўтрымаць сітуацыю пад кантролем. Пазней падазраваныя ў забойстве (імі аказаліся ісламісты) былі арыштаваныя.

Нават невялікай інфармацыі пра замах у экзатычным Тунісе дастаткова, каб зразумець алгарытм рэакцыі грамадства на смерць палітыка рангу Чокры Белаіда. Першым рэфлексам на паведамленне пра трагедыю ёсць вострае пачуццё несправядлівасці. Магчыма, гэта звязана з асабліваасцямі цяперашняй палітыкі, калі нейкае імя сімвалічна ўвасабляе ўвесь пратэстны рух, з ім звязваюць надзеі на перамены, у ім бачаць гаранты існавання дэмакратычных інстытутаў (у тым ліку і права на асабістую бяспеку). Так ці інакш, афект ад забойстваў лідараў апазіцыі настолькі моцны, што часам нават можа прывесці да самых непрадказальных наступстваў.

9 красавіка 1948 года ў калумбійскай сталіцы быў забіты прадстаўнік апазіцыйнай Ліберальнай партыі Калумбіі Хорхе Эльесер Гайтан, папулярны сярод самага беднага насельніцтва сваімі ідэямі аграрнай рэформы. Забойца — нейкі гарадскі вар'ят — быў разарваны натоўпам на месцы замаху. Аднак гэта быў толькі пачатак. Забойства Гайтана выклікала ўзброенае паўстанне ў Багаце, падчас якога было забіта больш за 2000 чалавек. Услед за гэтым успышкі гвалту пачаліся ў іншых рэгіёнах Калумбіі.

Так у гісторыі Калумбіі пачалася эпоха «La Violencia», якая цягнулася амаль 10 гадоў. У краіне гэта быў час абсалютнага «прававога бязмежжа», калі асобныя сутычкі пераraслі ва ўсеагульную бойню. У выніку мільёны жыхароў вымушаныя былі пакінуць свае дамы. Улада спрабавала рабіць стаўку на жорсткія меры, аднак гэта толькі раскручвала спіраль гвалту. Нарэшце, баючыся страты кантролю над палітычнай сітуацыяй у краіне, лідары Кансерватыўнай і Ліберальнай партый стварылі Нацыянальны фронт, які прапанаваў пагадненне аб парытэце тэрмінам на 12 гадоў. Парытэт быў ухвалены на плебісцыце 21 снежня 1957 года. Грамадзянская вайна забрала больш за 200 тысяч жыццяў. Вось такім дарагім аказаўся кошт забойства аднаго лідара.

У лютым 2006 года ў Алма-Аце на вуліцы стыхійна выйшла каля тысячы чалавек, пратэстуючы супраць забойства Алтынбека Сарсенбаева, аднаго з лідараў апазіцыйнага руху «За справядлівы Казахстан», цела якога знайшлі ў лесе пад горадам. Практычна ўсе адзначалі, што выхад такой колькасці людзей на пратэстныя акцыі — нешта фенаменальнае для Казахстану, дзе Назарбаеў даўно зачысціў палітычнае поле і загнаў праціўнікаў у падполле.

Дасюль не зразумелая роля ва ўсёй гэтай справе самога прэзідэнта Нурсултана Назарбаева, які, дарэчы, быў вымушаны звярнуцца са спецыяльным зваротам з нагоды справы Сарсенбаева. Пытанне асабістай ангажаванасці вышэйшага кіраўніка ў падрыхтоўцы забойства свайго апанента абавязкова задаецца ў грамадстве пасля такіх трагедый.

Сапраўды, былі выпадкі, калі лідары краіны тайна рыхтавалі гэтыя замахі, і пасля былі вымушаны адказваць за гэта. Напрыклад, дасюль у Пакістане падазраюць, што прэзідэнт Первез Мушараф ведаў, што тэрарыст-смяротнік «Аль-Каіды» рыхтуе выбуховае прыстасаванне напярэдадні шматтысячнага апазіцыйнага мітынгу ў горадзе Равалпіндзі 27 снежня 2007 года. У выніку выбуху каля 20 чалавек, у тым ліку некалькі супрацоўнікаў паліцыі, загінулі і не менш за 15 атрымалі раненні. Была цяжка параненая экс-прэм'ер Пакістана, лідар апазіцыі Беназір Бхута. Дактары змагаліся за яе жыццё, але не змаглі выратаваць. Бхута памерла на аперацыйным стале.

Прэзідэнт Пакістану Первез Мушараф адразу пасля выбуху рашуча асудзіў забойства Беназір Бхута. Аднак пазней сталі ўсплываць цікавыя факты. Так, брытанскія журналісты знайшлі электронны ліст, які Бхута за пару месяцаў да падзеяў накіравала міністру замежных спраў Вялікабрытаніі Дэвіду Мілібэнду. Бхута сцвярджала, што забіць яе хочуць трое высокапастаўленых чыноўнікаў з атачэння прэзідэнта Пакістана Первеза Мушарафа. Брытанцы, па сцвярджэнні газеты, павінны былі па дыпламатычных каналах аказаць ціск на пакістанскія ўлады і сарваць змову.

У 2013 годзе экс-прэзідэнта арыштавалі. Абвінавачванне настойвае, што былы прэзідэнт Пакістана не забяспечыў лідару апазіцыі належнай аховы, у выніку чаго яна была забітая экстрэмістамі.

Аднак часам смяротную зброю ў рукі забойцы ўкладае не сам лідар дзяржавы ці яго спецслужбы, а хутчэй атмасфера нянавісці, якую стварыў рэжым. Хуан Сіера, які забіў Хорхе Гайтана (як прызнаюць гісторыкі) не працаваў на дзяржаўны калумбійскі апарат, і нават не быў сябрам урадавай кансерватыўнай партыі. Ён быў проста ахвярай прапагандысцкай кампаніі, якую вяла супраць лідара лібералаў рэакцыйная прэса.

Як бачым, спантанныя пратэсты супраць палітычных забойстваў не заўсёды заканчваюцца палітычнымі крызісамі рэжымаў. Аднак без наступстваў для іх саміх гэта таксама не абыходзіцца. 10 чэрвеня 1924 года быў выкрадзены і забіты дэпутат-сацыяліст Джакома Матэоці, які праславіўся вострымі выступамі ў парламенце супраць фашыстаў. Забойства выклікала мабілізацыю апазіцыі, чые прадстаўнікі пакінулі парламент. Аднак на гэтым усё закончылася. Фашысты атрымалі магчымасць паступова сканцэнтраваць сілы і ўжо зімой 1925 года прыступілі да канчатковай ліквідацыі дэмакратычных свабодаў у Італіі. Пачалася новая «чорная» старонка ў гісторыі краіны.

Расійская дэмакратычная прэса разглядае забойства Нямцова таксама як паваротны момант пуцінскай Расіі. На думку прэсы, кулі, выпушчаныя ў Нямцова, значаць разрыў са спадчынай нулявых гадоў, калі ў расійскім грамадстве дапускалася наяўнасць афіцыйнай празаходняй апазіцыі.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Мануэла Швезіг



Міністр ураду ФРГ па пытаннях сям'і, пенсіянераў, жанчын і моладзі, сябра сацыял-дэмакратычнай партыі (SDP) прапанавала на разгляд праект закону, які павінен прымусіць кампаніі рабіць празрыстай статыстыку па заробках сваіх супрацоўнікаў. На думку чыноўніцы, гэта будзе эфектыўнай мерай супраць практыкі, калі жанчынам плацяць меншы заробак, чым мужчынам. На цяперашні дзень розніца ў заробках паміж немкамі і немцамі складае каля 22 працэнтаў (гэта, дарэчы, адзін з самых вялікіх разрываў па заробках у Еўропе). Рэформа Швезіг на першым этапе будзе тычыцца выключна прадпрыемстваў, на якіх працуе больш за 500 чалавек. Заняцца малымі фірмамі плануюць трошкі пазней. Прадстаўнікі бізнесу дастаткова крытычна ўспрынялі прапановы міністра. Прэзідэнт Саюзу нямецкіх прадпрымальнікаў Інга Крамер мяркуе, што нічога, акрамя большай бюракратыі, якая пачне душыць бізнес, рэформа не дасць. У сваю чаргу, міністр лічыць, што празрыстыя заробкі, наадварот, дапамогуць стымуляваць рабочы персанал.

### Уладзімір Рыжкоў



Расійскі ліберальны палітык, былы віцэ-спікер думы і кіраўнік адной з фракцый, можа заняць месца забітага Барыса Нямцова ў якасці хедлайнера апазіцыі Пуціну. Прыкладна год таму Рыжкоў моцна пасварыўся з Нямцовым, пакінуў пасаду сустаршыні Расійскай рэспубліканскай партыі — Партыі народнай свабоды (РПР–ПАРНАС), каб стварыць сваю структуру. Гэтыя спробы не мелі поспеху, і Рыжкоў апошнім часам ціха рыхтаваўся да думскіх выбараў 2016 года. Па чутках, кіраўніцтва РПР-ПАРНАС ужо прапанавала Рыжкову вярнуцца на пасаду сустаршыні партыі. У такім выпадку Рыжкоў будзе кіраваць самай буйной антыпуцінскай арганізацыяй разам з былым прэм'ерам Міхаілам Касьянавым. Як бы ні склалася далейшая кар'ера Рыжкова ў рамках РПР-ПАРНАС, яго вяртанне безумоўна ўзмацніць арганізацыю. Праўда, у расійскім апазіцыйным сегменце зараз набіраюць ход дэбаты наконт таго, наколькі эфектыўна ва ўмовах нарастання аўтарытарызму можа быць звычайная апазіцыйная структура. Чуюцца прапановы будаваць апазіцыю праз сацыяльныя сеткі.

### Мілаш Земан



Прэзідэнт Чэхіі яшчэ раз давёў шкоду алкаголю, пасля таго, як 1 сакавіка пасля выпітых двух кубкаў віна падчас прыёму ў сваёй рэзідэнцыі, выдаў незвычайны тост. Чэшскі гарант узняў кубак: «За смерць усіх абстынентаў і вегетарыянцаў». Земанаўскую фразу можна было зразумець як жарт, калі б не трагедыя ў адным з правінцыйных чэшскіх кафэ, дзе напярэдадні было забіта 8 чалавек (самае вялікае масавае забойства ў гісторыі сучаснай Чэхіі). Апазіцыя адразу заявіла, што такая рыторыка прэзідэнта — блюзнерства. У адказ прэс-служба Земана даслала арыгінальнае камюніке. Паводле яго, гарант краіны, заклікаючы прысутных на банкеце забіваць вегетарыянцаў, меў на ўвазе Адольфа Гітлера, які, як вядома, не еў мяса. Такі забаўны адказ выклікаў яшчэ больш крытыкі на адрас Земана. Дарэчы, жонка Мілаша Земана — вегетарыянка. Гэта стала падставай для шматлікіх жартаў наконт таго, што ёй пагражае небяспека. Застаецца дадаць, што, паводле апытанняў, напрыканцы лютага рэйтынг Земана складаў 43 працэнты. Гэта на дзесяць пунктаў менш, чым год таму, аднак усё роўна не мала.



Сяргей ШАПРАН



# Юрый Шаўчук: «Зрабіць крок да любові складаней, чым перамагчы ў вайне»

**«ДДТ» зноў быў у Мінску. Ужо пасля канцэрта, на пачатку дванаццатай гадзіны ночы, вітаючы журналістаў у грымёрцы «Мінск-Арэны», Юрый Шаўчук шчыра ўсміхнецца: «Для мяне сёння свята было. Мы вельмі радыя і шчаслівыя, што мы ў Беларусі. Дый гэта ж было бачна па маёй мордзе — «чувак тащился»! — рассмяецца ён і дадасць, маючы на ўвазе выступ «ДДТ»: — Сёння была прыгожая і абсалютная любоў з нашага боку, а з ваша боку яна была выдатная. І вялікі вам дзякуй. Любоў — гэта вельмі важна ў любыя часы».**

У «ДДТ» новы склад. Юрый Шаўчук цяпер у «ДДТ», як сам жартуе, нібыта Кашчэй Несмяротны. Побач з ім на сцэне музыкі, значна маладзейшыя за яго. «Тое, што побач са мной моладзь, — гэта вялікі гонар, — зазначыць ён, — бо не з усімі бывае моладзь, не з усімі».

Адна з тых маладых музыкаў — Алена Раманава. Не ўпершыню за 35-гадовую гісторыю гурта Шаўчук запрашае на карабель «ДДТ» жанчын, аднак упершыню дзяўчына не толькі саліруе ў асобных нумарах, але і выступае бэк-вакалам праз усю амаль трохгадзінную праграму. Адсюль шмат у чым новы твар гурта і ў нечым іншы, сапраўды празрысты саўнд. Дый таго вымагае і праграма, складзеная пераважна з песень двух апошніх альбомаў «Иначе» і «Прозрачный» і перамешаная з праверанымі часам хітамі. Праграма, якую смела можна запісаць у адзін шэраг з лепшымі канцэптуальнымі, эпічнымі працамі «ДДТ» 1990-х: «Чёрный пёс Петербург», «Это всё», «Мир номер ноль».

Шаўчук прыязджае ў Мінск больш за чвэрць стагоддзя. Ці ўзгадваецца яму самому нешта, апроч канцэртаў? Вядома, скажа ён, прыгадваюцца гэтаксама і людзі, напрыклад, гурты «Naka» і «Тройца». Ці выбітны паэт Веньямін Блажэнны. Узгадае і гутаркі з удавой Васіля Быкава Ірынай Міхайлаўнай. Дадасць, што любімы яго мастак — Марк Шагал. І распавядзе пра адно сяброўства: «У мяне ў Гомелі ёсць выдатныя старыя сябры — Іван Афанасьеў і яго бацька Мікалай Мікалаевіч. Гэта выбітныя ваенныя гісторыкі (Іван Афанасьеў — загадчык кафедры рускай і сусветнай літаратуры Гомельскага ўніверсітэта. Апошнім часам распрацоўвае тэмы, якія знаходзяцца на мяжы гісторыі і літаратуры. — С. Ш.). Я таксама ім дапамагаю — яны цяпер рыхтуюць кнігу пра Вялікую Айчынную вайну. Яны, увогуле, «капаюць» вельмі сур'ёзна ў архівах, напрыклад, знайшлі ўзнагародныя майго бацькі — франтавыя загады на ордэны і медалі. Такі выдатны падарунак мне зрабілі!..» А калі ўбачыць той нумар часопіса «Дзеяслоў», дзе ёсць і ягоныя песні ў перакладзе Вольгі Гронскай на беларускую мову, Шаўчук, запытаўшыся пра якасць перакладаў («Ці прафесійныя?»), не выключыць, што наступным разам праспявае і па-беларуску: «Запраста! Чаму не?»

Ён не змяніўся. Рубіцца за праўду і за чалавека ў самім чалавеку — ранейшы яго непахісны прынцып. Мусіць, таму падчас канцэрта ён неаднойчы скажа пра тое, што цяпер ва ўсіх баліць, — пра падзеі ва Украіне: «Хлусіць не будзем — цяжкія часы перажываем. Няхай жыве мір на Украіне!» І самая жорсткая яго фраза: «Тыя, хто ўчыніў вайну паміж двума братнімі народамі, — проста казлы. Міра Беларусі і Украіне!» Зрэшты, пра гэта ён гаварыў напярэдадні падчас прэс-канферэнцыі:

— Цяжкія часы, найцяжэйшыя, проста жудасныя. Таму мы дужа шмат ездзім і іграем, гаворым з людзьмі пра чалавечнасць і пра чалавека. Пра тое, што зрабіць крок да любові складаней, чым перамагчы ў вайне... Шмат якія нашы песні сацыяльныя, грамадзянскай накіраванасці, на жаль, актуальныя дасюль, хоць гэтага, мабыць, не хацелася б. Хацелася б добрых адносінаў паміж людзьмі. Мы вельмі перажываем — адсюль і песні... Я цяпер думаю пра тое, як пакласці сваё сэрца на шалі, з аднаго боку якіх мір, з другога — вайна... Мы не спім па начах, як і ўсе, пакутуем, страшэнна пакутуем... Я не чакаў, што з усіх шчылін павыпаўзаюць гэтыя рабяты, якія прагнуць вайны, гэтыя чарнасоценцы, маргіналы... У Расіі цяпер проста жудасна ўсё, і вельмі многа зла, занадта многа... З іншага боку, гэта вялікі досвед — такія перажыванні. Думаю, цяпер мастацтва рване, бо няма іншага выйсця — ні ў рок-н-рола, ні ў паэзіі, ні ў тэатра...

***— А не думаеце выступіць у Кіеве?***

— Мы праехалі ад Львова да Луганску яшчэ да падзей на Майдане. І паўсюль мы крычалі: «Украіна і Расія — браты і сёстры!» І ўсе нам крычалі: «Ура! Браты і сёстры!» І паўсюль я гаварыў: «Некаторыя палітыкі свараць нас, але мы ім не здадзімся!» І паўсюль было ў адказ: «Не здадзімся!» А потым — ба-бах і такі жах пачаўся!.. І вось сядзіш і думаеш: а ці здольнае мастацтва хоць на нешта ўплываць? Напрыклад, на чалавека, які проста прагне забіваць?.. Гэтае шэкспіраўскае пытанне магутна стаіць перад табой: а ці патрэбна ўвогуле тое мастацтва? Але потым разумееш, што патрэбнае, канешне. І трэба рабіць тое, што павінен. І гаварыць пра мір кожнаму, і рубіцца за кожнага. Рубіцца проста за чалавека.

***— Недзе год таму былі забаронены канцэрты «ДДТ» у Расіі. Не баіцеся паўтору забароны?***

— Нічога не баімся. Пакуль нас не пускаюць некаторыя губернатары-вар'яты ў пэўныя рэгіёны, але мы працуем. Гэта нават не праца — за кожны канцэрт мы рубімся напоўніцу. Гэта вельмі важна для нас... Нас ужо забаранялі, мы столькі перажылі ўсяго — сто разоў нас забаранялі і дазвалялі! Я па-філасофску да гэтага стаўлюся і не мяняю сваёй думкі ў адносінах ні да чаго. Праўда, мабыць, імкнуся быць менш радыкальным і быць больш уважлівым, бо чалавека словам можна і параніць, і забіць. Я цяпер больш патрабавальна да сябе самога стаўлюся. Гэта не значыць, што я нечага баюся — не, вядома...

Ужо пасля канцэрта, маючы на ўвазе тое, што Шаўчуком гаварылася раней, запытваюся пра галоўную паразу ў яго жыцці, аднак ён пачуе ў пытанні іншае.

***— У расійскага крытыка Уладзіміра Огнева ёсць такі запіс: «Напалеону сказалі, што ў яго рак унутры. Ён запярэчыў: «Унутры ў мяне Ватэрлоа». Ад чаго мы паміраем? Вядома, Напалеон меў рацыю. Толькі Ватэрлоа ў кожнага сваё». Дык вось тваё, Юра, Ватэрлоа ў чым?***

— Я ніколі не буду Напалеонам. Ніколі. Я проста ніколі не змагу — я гэта даўно зразумеў — пасла́ць простага чалавека на смерць. Я проста пазбаўлены гэтай самаўпэўненасці. Я ніколі не змагу сказаць хлопцу (а я быў на многіх войнах): «Давай, Вася, ідзі сканай, сука, за радзіму». Я не змагу. Лепш сам пайду і сканаю... Напалеон — гэта амбіцыйны карлік з добрымі мазгамі, але... Мне напалеоны ніколі не падабаліся. Ніколі, сябры. Роля асобы ў гісторыі — рэч вялікая, але я крыху інакш цяпер стаў да ўсяго ставіцца...

Я быў у Афганістане — гэта быў унікальны для мяне досвед. Я хадзіў там адзін без зброі і зайшоў у кінатэатр — раней ён называўся «Расія», цяпер «духі» зрабілі з яго чайхану, усю ў дыванах. У велізарнай зале, дзе некалі паказвалі кіно, сядзяць барадачы — калі яны ўбачылі славянскую рожу, усе сто чалавек адразу на мяне! Я ім: «Hello!.. Рабяты, мір, сяброўства, Расія, ура!..»

А потым скачаш па камянях, дзе была 40-я армія, бо нічога не размініравана, і таму вельмі шмат афганцаў, асабліва маладых людзей, у якіх адарваныя канечнасці. І яшчэ шмат дзяцей і жанчын з карычневымі далонькамі — яны мак збіралі. Гэта проста вар'яцтва! І ты там скачаш...

А пасля я патрапіў у пустэчу... Памятаеце, «Апафеоз вайны» Верашчагіна — гэтыя чарапы? Гэтак жа ляжаць і рускія каскі — тысячы касак да самага далягляду! І чамусьці фашыстоўскія каскі часоў гітлераўскай арміі. Чаму? Высветлілася, што ГДР «сплавіла» ў Афганістан усё фашыстоўскую амуніцыю для афганскіх войск, якія ваявалі супраць «духаў» за рускіх. І ўсе яны хадзілі ў фашыстоўскіх касках і нямецкай форме. Гэта не паказвалі па тэлебачанні. І адразу ўзнікаюць асацыяцыі і дзіўныя метафары. І думаеш: ну, і што мы выйгралі? Каго перакавалі?..

Мы прыехалі ў палац Аміна, з мяне здымаюць акуляры: «Башыш?» Я кажу: «Гэта вам не падыдзе». Яны: «Давай гарэлку, сала!» І яны пілі з намі гарэлку і жэрлі сала — мусульмане, абсалютныя душманы! І мы, пасябраваўшы з імі, гулялі па палацы Аміна, дзе некалі бралі нашы слаўныя ГРУ і дзе на сценах крывёю мат-перамат... І цішыня, ветрык, кавыль матляецца... А вакол Кабула сцяна Аляксандра Македонскага — ён таксама не здолеў перамагчы, толькі сцяна засталася. І думаеш: нафіг гэтая вайна? Дзеля прагрэсу, як кажуць разумнікі? Першы быў Геракліт, які сказаў: мір ёсць вайна... Яна ўвогуле не патрэбная!.. І калі глядзіш на гэта ўсё, дык узгадваеш, вядома, «Маленькага прынца» Сэнт-Экзюперы — вось гэтыя дзіўна тонкія рэчы пра вайну і мір. Свет — не такі, не палітычны, ён зусім іншага роду... І вось цяпер гэтая вайна, яна проста разарвала мяне, не буду хлусіць. Сёння мы пра гэта гаварылі. Гэта самае галоўнае, бо ўсё мінае, толькі любоў застаецца. А болей няма за што трымацца, бо больш нічога не існуе...

...Калі калегі-журналісты пайшлі, і мы засталіся ўдваіх, Шаўчук пытаўся і пра новую праграму, і пра тое, як было ўспрынята тое, што ён казаў паміж песнямі — пра Украіну, Беларусь і Расію, гэта значыць пра вайну і мір. Яму гэта не проста баліць — яго гэта сапраўды разрывае, і таму яму дужа важна, проста жыццёва неабходна, каб яго пачулі. І каб ведалі, што найгалоўным сваім прынцыпам ён не здраджвае і па сёння. Зрэшты, пра гэта ў яго песнях. Шаўчук сам пра гэта скажа, калі застанемся сам-насам. І я — нават не здагадваючыся яшчэ, чаго ж ён ад мяне чакае, — з радасцю пацверджу, што ён, Юрый Шаўчук, не здрадзіў анікому і нічому — ні сваім песням, ні сваёй-нашай маладосці. «Ты не змяніўся», — скажу яму. Па-мойму, ён быў шчаслівы пачутым. Ці з якой яшчэ прычыны свяціўся тады?.. Зрэшты, і я ж быў абсалютна шчыры з ім.

# Памяць пра выбітнага адраджэнца

Сяргей ГВАЗДЗЁЎ

**Грамадскасць Беларусі даволі актыўна адзначыла 125-я ўгодкі з дня народзінаў паэта, святара і грамадскага дзеяча Казіміра Сваяка.**

Казімір Сваяк (Канстанцін Стаповіч) пражыў кароткае, але выключна яркае жыццё. Не па знешніх прыкметах — пасадах і роду занятку, а па духоўнай глыбіні, па духоўнаму ўплыву на грамадства, які мы адчуваем і ў якім ёсць запатрабаванасць да сёння.

Фактычна ўшанаванне адраджэнца і літаратара пачалося 19 лютага вечаровай імшой у Чырвоным Касцёле (Св. Сымона і Алены), наступнымі днямі службы прайшлі ў касцёле ў Камаях ды Клюшчанах, дзе пасля заканчэння Віленскай духоўнай семінарыі нёс слова Божае Казімір Сваяк.

Заўважнай свецкай падзеяй ушанавання памяці Казіміра Сваяка, па сваёй інфармацыйнай насычанасці, асэнсаванню праблем і задач па вяртанні з небыцця, аднаўленні да новага жыцця духоўнай спадчыны выбітных беларусаў, сталася вечарына памяці, што прайшла 23 лютага ў памяшканні сядзібы Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны.

## Пытанне беатыфікацыі

Паўнапраўнай і непераўзыдзена гасціннай гаспадыняй вечарыны была біёграф Казіміра Сваяка, паэтка і даследчыца Ірына Багдановіч, якая яшчэ ў 2010 годзе падрыхтавала і выдала аднатысячным тыражом у выдавецтве «Беларускі Кнігазбор» том «Выбраных твораў» гэтага дзеяча. Са скрухай мушу канстатаваць, што кніга імгненна стала не менш рарытэтнай, чым рэпрынтныя выданні паэта — «Мая Ліра» (1924) ды беларускамоўны малітоўнік «Голас Душы» (1936), перавыдадзеныя ў 1990-х гадах.

Цікавейшым стаўся расповед спадарыні Ірыны пра ўжо здзейсненае па ўшанаванні памяці Казіміра Сваяка, тым больш, што выступ яе суправаджаўся відэапрэзентацыяй, падрыхтаванай Уладзімірам Раманоўскім — нязменным хранікёрам-летапісцам грамадскіх імпрэзаў. Яшчэ больш інтрыгуючым ды і карысным было даведацца аб яе працы па падрыхтоўцы зборніка дакументаў, якія датычыліся жыццёвага шляху Казіміра Сваяка.

Як і мае быць, гаспадар сядзібы спадар Алег Трусаў напачатку даў слова знакамітаму прафесару-славісту Адаму Мальдзісу. Апрача шчырых і асабістых успамінаў пра расшукова-даследчую працу па высвятленні і асэнсаванні жыцця і дзейнасці Казіміра Стаповіча, зямляк-навуковец распавёў аб сваім даследаванні гісторыі шведскай фаміліі Свольkенаў. Гэта былі заможныя гаспадары з Астравеччыны, якія не супацівіліся народный мове і культуры і ў якіх працаваў ляснічым бацька братоў Стаповічаў. У сям'і было шасцёра дзяцей, і ўсе атрымалі годную адукацыю.



Мастак Алесь Цыркуноў. Партрэт Казіміра Сваяка




Канстанцін Стаповіч у гады навучання ў семінарыі

Другой сутнаснай прапановай прафесара (асабістае меркаванне, якое ён агучыў яшчэ на прыёме ў Ватыкане ў 1990 годзе) была прапанова ўлучэння Казіміра Сваяка ў лік асобаў, якія разглядаюцца да беатыфікацыі (ад лацінскага «beatus» — «дабраславёны» і «facio» — «раблю»). Царкоўны і літургічны акт залічэння асобы да дабраславёных — першасны этап у працэсе падрыхтоўкі да кананізацыі.

На думку спадара Мальдзіса, апрача працы па беатыфікацыі дабрадзея касцёла Св. Сымона і Алены — Эдварда Вайніловіча і мяркуемай беатыфікацыі Казіміра Сваяка перадусім неабходна разглядаць «залічэнне да ліку дабраславёных» першадрукара і лекара Францішка Скарыны ды Соф'і Гальшанскай (Друцкай).

Прапанова слушная, тым больш, што выказана яна асобай не толькі шаноўнай, але і сябрам беатыфікацыйнага камітэта пры касцёле Св. Сымона і Алены. Захады гэтыя мусіць рабіць Касцёл у шчыльным звязе з праваслаўнай канфесіяй.

Своеасаблівай паэтычна-лірычнай цэзурай, што ўпрыгожыла вечарыну, стаўся выступ майстра мастацкага слова дыктара Беларускага радыё і тэлебачання, трывалага сябра журы Міжнароднага фестывалю хрысціянскіх фільмаў і тэлепраграм «Magnificat» — Алега Вінярскага. Паэтычныя радкі Казіміра Сваяка прагучалі з яго вуснаў неяк асабліва пранікнёна, даверліва, «па-касцельнаму, з глыбінь душы».

## Пытанне мастацкай ідэнтыфікацыі

Казімір Сваяк быў знаёмы з Пётрам Сергіевічам ды Язэпам Драздовічам. Спадарыня Ірына Багдановіч выявіла ў ЦНБ Беларусі некалькі лістоў паэта да Язэпа Драздовіча, які толькі-толькі выдаў сваю «Вялікую Шышку». Знак іх знаёмства істотны для гісторыі нацыянальнай культуры. Дазволю сабе цытату з аднаго з лістоў:

«Я вельмі цікаўлюся вашымі малюнкамі і рысункамі. Будзьце ласкавы зрабіць некалькі студый пяром ці як з прысланай разам з гэтым фатаграфіі аднаго бел.[арускага] тыпу (не народнага). Буду Вам вельмі падзячны, калі ў партрэце-шкіце ўложыце і сваёй крыху індывідуальнай памысловасці ў стылю беларускім. Сем картак Вам высылаю дзеля рысунку. Прышліце чым хутчэй. Магчыма, што закажу ў Вас яшчэ што. Абраз «Пагоні» я хацеў купіць, але па азначанай цане кнігар баяўся прадаць, бо танна. Гэта было месяц таму. Я на восень думаю аб выдавецтве вершаў. Буду Вас прасіць ілюстрацыі ў духу «Пагоні». Адсылаючы работу, напішыце, як Вам жывецца. Я вельмі Вам спагадаю, бо Вы мне ідзёвы сваяк», — пісаў пробашч з Засвіры ў Вільню.

Але «Мая ліра» засталася без ілюстрацый. Як і сам паэт — без партрэта пэндзля Драздовіча. Не варта выключаць, што партрэт мог быў напісаны па той жа фатаграфічнай картцы, пасля зыходу Стаповіча ў іншасвет. Тады ж мастак з гонарам адказаў: «Я партрэты па фатакартках не пішу!»

Па згадках брата, партрэт Казіміра Сваяка пісаў сябра «хаўрусу» — малады касцельны творца з Астравеччыны па мянушцы «Роміч» (Рамуальд Ракіцкі).

## Да аскетызму сціпла

Мастацкая іканаграфія Казіміра Сваяка фактычна на пачатку ХХІ стагоддзя толькі нараджаецца: ёсць выявы паэта-святара, зробленыя Алесем Пушкіным, мастаком самавукам Стэфаніем Казлоўскім. Таму кампазіцыйны партрэт ксяндза-адраджэнца, выкананы сябрам суполкі «Пагоня» мастаком Алесем Цыркуновым — адным з апекуноў імпрэзы ў ТБМ, — абмінуць было б папросту недаравальна.

Дыхтоўна зроблены партрэт юнака з прасветлена-цнатлівым тварам у каталіцкай вопратцы — кіраўніка касцельнага хору і завадатара нелегальнай грамадска-моладзевай арганізацыі, маральнага і фізічнага дасканалення асобы, рупліўцы мовы і арганізатара беларускіх школак — калі не лепшы ў творчасці Алеся Цыркунова, дык шчыра і прафесійна перадае беларускую мастацкую нацыятворчасць.

Душа і свядомасць прагнуць увасаблення класічнага мастацкага вобразу Сваяка: яснага, прамяністага і дакладна выверага, кшталту партрэту ксяндза Глякоўскага пэндзля Сергіевіча ў Літоўскім мастацкім музеі. Хоць бы таму, што ў грамадстве пачалася гаворка аб беатыфікацыі гэтай і іншых асобаў. Гэта вымагае супольнай і адкрытай працы ў пашыраных рамках — горада, краіны (арганізацыі майстар-класаў, правядзення конкурсаў, фестывалю, пленеру хрысціянскага мастацтва і г. д.).

Мяркуйце самі: Белы Касцёл (Найсвяцейшай Тройцы) Св. Роха больш за 10 гадоў ладзіць фестываль духоўнай музыкі «Залатагорская Ліра», Кафедральны касцёл Панны Марыі апякуецца Міжнародным фестывалем каталіцкай Духоўнай кінадакументалістыкі і тэлефільмаў «Magnificat», хочацца мець надзею, што трывалым месцам духоўнага прыстанішча для думных і нацыянальна спелых мастакоў, якія шануюць хрысціянскія каштоўнасці, стане касцёл Св. Алены і Сымона (Чырвоны).

Не ўсё, вядома, атрымалася, як планавалася. З-за абмежаванасці ў часе не ўсе запрошаныя і проста жадаючыя змаглі выступіць на вечарыне памяці Казіміра Сваяка. За што арганізатары шчыра прабачаюцца. Не змаглі прыехаць астравецкія рупліўцы паэта і святара, а таксама сваячка паэта Валянціна Сігізмундаўна Зіновіч. Хіба ўсцешыла, што вечарыну наведала моладзь з Клюшчанаў, якая вучыцца ў Мінску. Ды яшчэ застаецца ўпэўненасць, што гэтая сустрэча — не апошняя. Бо суродзічаў у паэта і святара Казіміра Сваяка — цэлая суверэнная Беларусь!



Ксяндзы-літаратары (злева направа): Янка Быліна (Янка Семашкевіч, 1883—1956), Адам Станкевіч (1892—1949), Казімер Сваяк (Канстанцін Стаповіч, 1890—1926)



Касцёл у мястэчку Засвір. Пачатак ХХ стагоддзя. Фота radzima.org

# «Гвалт» ад «Гаротніцы»

**6 сакавіка ў галерэі Беларускага саюза дызайнераў адкрылася выстава «Gvalt» («Гвалт»), прымеркаваная да выпуску аднайменнага альбома беларускага гурта «Гаротніца».**

Музычны праект «Gvalt» дэструктыўнага пажарнага аркестра «Harotnica» — рэдкі для Беларусі прыклад творчай калабарацыі прафесійных мастакоў і музыкаў. Гісторыя пачынаецца напачатку 2015 года, калі «Harotnica» выпускае свой першы поўнафарматны альбом пад назвай «Gvalt», і робіць гэта незвычайна — запрашае да ўдзелу ў праекце сучасных беларускіх мастакоў.




«Да кожнай песні ёсць свая ілюстрацыя, і да дыска прыкладзеныя даволі вялікія налепкі з імі, — распавядае вакалістка гурта ВалерыяВаладзько. — Адмыслова пад песню малявалі Міця Післяк, Аксана Лакоза ды Мілаш Яўгенавіч. З астатнімі проста супала, прычым, крута супала… Напрыклад, Руслан Вашкевіч прыслаў мне карціну, якая… ну дакладная «Finka». Штосьці неверагоднае! Не ведаю, як так супала!»

**Праект «Gvalt» — гэта эксперымент, адмова ад звыклых і малацікавых прыёмаў**

«Gvalt» — сінтэтычны праект, што аб'ядноўвае ў сабе музычны і візуальны складнікі. Здольныя існаваць самі па сабе, музыка і выяўленчае мастацтва ў дадзеным праекце дапаўняюць і інтэрпрэтуюць адзін аднаго. Кожная праца падмацоўвае і падштурхоўвае да новага прачытання музычных кампазіцый. Тут гаворка ідзе пра судотык, непарыўную сувязь відаў мастацтваў, іх узаемапранікненне і ўплыў адзін на аднаго. Выставачны праект Беларускага саюза дызайнераў прэзентуе прачытанне музыкі сродкамі візуальнага мастацтва.

Мастацтва інтэрпрэтацыі ўзнікла не выпадкова і не сёння. Гэты працэс, уласцівы чалавечай свядомасці, пранізвае ўсё наша жыццё і праяўляецца ў разнастайнасці творчых метадаў і падыходаў. Праект «Gvalt» — гэта эксперымент, адмова ад звыклых і малацікавых прыёмаў афарміцельства, дзе перавага аддадзена паўнавартаснаму творчаму ўзаемадзеянню. Выстава з'яўляецца лагічным працягам канцэртнай прэзентацыі альбома, якая з поспехам прайшла 24 студзеня 2015 года. На ёй падстаўлены арыгіналы прац, што ілюструюць музычнае выданне. Свае працы прэзентуюць вядомыя мастакі Руслан Вашкевіч, Жанна Капустнікава, Міхаіл Гулін, Міця Післяк, Мілаш Яўгенавіч, Ларыса Бауге, Аксана Лакоза і Валянцін Благодаў.

Выстава працуе да 24 сакавіка 2015 года.

## Дапаможам Рэксу паверыць у любоў!



Рэкс — добры і разумны сабака, але нікому не патрэбны. Ён шмат гадоў пражыў разам з 10 катамі ў адной не вельмі адэкватнай жанчыны. Жанчына памерла, і ўся гэта спадчына дасталася яе дачцэ. А ў дачкі яшчэ і двое зусім маленькіх дзяцей. Да Рэкса ў яе рукі не даходзяць. Кожную раніцу, у любое надвор'е, яго проста выпускаюць на вуліцу, а ўвечары ён брэша пад вокнамі, каб сказаць: «Я прыйшоў. Я хачу дахаты. Пусціце мяне пагрэцца і трошкі паесці». Суседзі скардзяцца і кажуць, што альбо атруцяць Рэкса, альбо выклічуць на яго адлоў.

У чым вінаваты Рэкс? У тым, што нарадзіўся, што хоча мець свой дом і гаспадара, хоча, каб яго любілі і з ім гулялі.

Тэлефануйце: 8-029-603-25-04 Вольга.

# Генік Лойка: Прымушайце людзей размаўляць з сабой па-беларуску

**Вядомы абаронца беларускай мовы, скульптар Генік Лойка распавёў пра актуальныя праблемы адраджэння нацыянальнай мовы і культуры журналісту «Новага Часу» Арцёму Ляве.**



***— Вам давялося два гады таму адседзець адміністратыўны арышт за пікет у абарону мовы каля гімназіі №4. Якое там стаўленне да мовы зараз?***

— У прынцыпе ўсё засталося па-старому. З'явіліся новыя завучы, настаўнікі. Так бы мовіць, тлумачальную працу з імі трэба пачынаць з нуля. Але ў нас з дырэктарам знайшлося паразуменне. Ён мне давярае. У гэтым плане зрухі ёсць. Настаўнікі мне кажуць: «У нас з мовай усё добра. Мы стараемся!» Але чалавек з вышэйшай адукацыяй не можа патлумачыць, як стараецца, што робіцца ў гэтым накірунку. Я кажу, што мова гіне, памірае, а завуч кажа, што ўсё цудоўна. Калі дайшлі да такога стану, то ці гэта свядомая пазіцыя дзяржавы альбо школы, ці гэта памылкі. Калі настаўнікі ў беларускамоўнай школе размаўляюць па-руску, то, мабыць, гэта і ёсць такая палітыка, менавіта так і хацелі зрабіць, што зрабіць.

***— Лукашэнка апошні час публічна выказваецца ў абарону беларускай мовы, міністр адукацыі заявіў пра намер перавесці выкладанне гісторыі і геаграфіі Беларусі на беларускую мову. Гэта штосьці азначае?***

— Гэта была хоць і публічная, але неафіцыйная заява міністра адукацыі. Калі Лукашэнка заявіў пра неабходнасць увядзення сямі гадзінаў беларускай мовы, кожны пачуў, што хацеў пачуць. Я, наадварот, у гэтым бачу небяспеку кшталту таго, што скажуць «языковы вапрос вырашаны аканчацельна».

***— У грамадстве апошнім часам істотна павялічылася цікавасць да беларускай мовы, можна сказаць, з'явілася мода на яе. Пашыраюцца і сталі вельмі папулярнымі моўныя курсы і моўныя шоў. На конкурсе грамадзянскай супольнасці, які ладзіла Асамблея НДА, вядоўцы моўных шоў увогуле сталі пераможцамі ў намінацыі «Грамадскі лідар года». Гэта часовая з'ява ці трэнд?***

— Гэта адвечны рух беларускага народа да адраджэння мовы і культуры. Незалежна ад рэжыму, ад палітычнай сітуацыі беларусы будуць шукаць свой грунт. Магчыма, што нейкім чынам гэты грамадскі рух па адраджэнні культуры паўплываў на заявы міністра адукацыі пра пашырэнне выкладання на беларускай мове. Гэта трэба толькі вітаць. Нам трэба за гэта ўхапіцца і падтрымліваць. Курсы «Мова нанова» — выдатныя курсы. Магчыма, яны не адыгрываюць вялікай адукацыйнай ролі, але гэта такі зарад энергіі і пазітыву, які падштурхне людзей больш і часцей гаварыць на роднай мове.

***— Нядаўна на моўных курсах абмяркоўвалася пытанне «трасянкі». Як вы лічыце, ці варта пачынаць размаўляць па-беларуску, не ведаючы добра мову, па прынцыпе, абвешчаным кіраўніком ТБМ Алегам Трусавым, «лупіце на трасянцы»?***

— Я яго цалкам падтрымліваю ў гэтым пытанні. Пачынаючы размаўляць па-беларуску, не трэба баяцца рабіць памылкі. З цягам часу гутарковая мова будзе паляпшацца. З іншага боку, у маладым пакаленні з'явілася такая плынь, калі юнакі ўжываюць трасянку так бы мовіць «па прыколу». Быў цэлы культурніцкі праект «Сажа і Сірожа». Мяне гэта трывожыць. Гэта проста лішняе. Аднойчы пісьменніца Марыйка Мартысевіч чытала апавяданне, адмыслова напісанае на трасянцы. Заля качалася ад смеху, але мне было зусім не весела. Фактычна там былі расійскія словы, прамоўленыя з беларускім акцэнтам. Я хачу, каб беларускім акцэнтамганарыліся, бо там захавалася мелодыка нашай мовы, а не высмейвалі яго! Бо такім чынам мы здзекуемся з моўнай музыкі. І калі на моўных курсах Глеб Лабадзенка прапанаваў Алегу Трусаву прачытаць верш Анкі Упалы, напісаны трасянкай, ён адмовіўся, у чым я яго цалкам падтрымліваю. Мне было вельмі прыемна, што большасць залі яго таксама падтрымала.

***— Чым скончылася змаганне за мову з КДБ, калі вы патрабавалі ад іх адказу на свае звароты па-беларуску?***

— Скончылася нічым. 0:1 не на маю карысць. Я патрабаваў ад дзяржаўных прадпрыемстваў, устаноў, каб яны адказвалі на звароты па-беларуску. І дзяржаўныя юрысты нават такога ўзроўню як суддзі не дапамаглі мне ў рэалізацыі майго права атрымліваць афіцыйныя адказы на беларускай мове. Я нават заяўляў, што не валодаю рускай мовай, што маю права атрымаць адказ па-беларуску, але і гэта не дало плёну.

***— Гэтай зімой Радыё Свабода паведамляла, што ў вашым двары з'явілася скульптура беларускага князя са снегу. Яна дужа падобная да скульптур у межах праекта «Легенды з пяску». Прызнайцеся, вы да яе прыклалі руку?***

— Так, сапраўды. Харугвы з надпісам «Легенды з пяску» былі ў іншым месцы, і я не змог абазначыць імі снежную скульптуру. Можна сказаць, што яна цалкам упіваецца ў наш праект «Легенды з пяску», які доўжыўся дзесяць гадоў. У двары бацька аднаго хлопчыка дапамог яму зрабіць снежны домік. На яго аснове я і зрабіў скульптуру: даляпіў нос, вочы, карону. Любая скульптура праекта звязаная з гісторыяй і культурай Беларусі (князі, цмокі, апосталы…) Ідэя «Легендаў з пяску» — паказаць людзям, як Беларусь рассыпаецца, што яна пад нагамі, падыміце яе! Тыя маладзёны, якія робяць скульптуры з пяску, у будучым стануць мастакамі, скульптарамі, якія будуць рабіць манументальныя рэчы з жалеза, граніту, шкла, але зараз мы хочам з дапамогай праекта ўзняць пытанне захавання Беларусі.

Я спадзяюся, веру што ў новым сезоне «Легенды з пяску» адновяцца. Хто такі беларус? Гэта чалавек, які размаўляе толькі на беларускай мове, думае па-беларуску, сніць па-беларуску. Такая абавязковая ўмова для ўдзельнікаў праекта. Я не магу пакуль знайсці 30 такіх апантаных і свабодных маладых людзей.

***— Што трэба зрабіць, каб родная мова запанавала ў Беларусі?***

— Трэба прымушаць. А што такое прымус? Ён бывае розным. Можна ўзяць аўтамат Калашнікава, а можна ўкленчыць і прасіць-маліць чалавека: «Загавары са мной на беларускай мове». Прымушайце людзей размаўляць з сабой па-беларуску.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

ЗАРЭГІСТРАВАНА Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

ЗАСНАВАЛЬНІК Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

ВЫДАВЕЦ Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81 novychas@gmail.com; novychas.info

НАДРУКАВАНА ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 304

Падпісана да друку 06. 03.2015. 8.00. Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.